
Эмілія Грыка → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Міхал Андрасюк → 12

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 50 (3318) Год LXIV Беласток, 15 снежня 2019 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Мастацкі кіраўнік ГДК Ядвіга Лях-Кучкін адзначыла непаўторнасць жывапісу Станіслава Паскробкі

# Жывапіс
## Станіслава Паскробкі

Я рады, што Станіслаў Паскробка адышоў ад рэалістычнага адлюстравання рэчаіснасці, з усімі яе дэталямі і рашыўся шукаць новае ў жывапісе, што бачна на экспанаваных працах. Шукаючы сваёй дарогі ў мастацтве і адыходзячы ад рэалістычнага малявання, не парваў ён сувязей з прыродай, сярод якой жыве ў Рыбаках. Большасць яго карцін складаюць краявіды Белавежскай пушчы і яе наваколля. Паказвае іх так, як бачыць, карыстаючыся мастацкімі тэхнікамі і прыёмамі. Калі Станіслаў Паскробка малюе пушчу, не адлюстроўвае яе рэалістычна, але стараецца паказаць яе душу, характар і засяроджваецца на паасобных дрэвах. Прэзентуе акружаючыя яго вёску палі і пралескі згодна са сваёй уражлівасцю. На іншых працах Станіслава Паскробкі бачым яго ўнутраныя перажыванні і эмоцыі, якія вылівае на палотны. Моцныя колеры, святло і тоўстая структура робяць яго карціны адметнымі. Гэтыя працы ўжо зараз цікавыя, а паколькі жывапісец надалей шукае сваю дарогу ў мастацтве, можна разлічваць, што паявяцца цікавыя карціны, — мяркуе гайнаўскі мастак Віктар Кабац аб творчасці Станіслава Паскробкі, прэзентаванай на персанальнай выставе ў Гайнаўскім доме культуры, якая адкрылася яшчэ ў лістападзе.

На вернісаж прыбылі прафесійныя і непрафесійныя мастакі Гайнаўшчыны і асобы, якія спатыкаюцца на Аглядзе непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі. На аглядзе Станіслаў Паскробка часта атрымліваў узнагароды ў катэгорыі жывапісу і гэта было штуршком, каб перад чарговым мастацкім аглядам сарганізаваць яму персанальную выставу ў галерэі ГДК.

Сабраных на адкрыцці выставы прывітала мастацкі кіраўнік ГДК Ядвіга Лях-Кучкін. Адзначыла яна непаўторнасць жывапісу Станіслава Паскробкі, звярнула ўвагу на цікавыя пейзажы наваколля Рыбакоў і на творчыя пошукі непрафесійнага мастака, які, хаця сам многаму ў мастацтве навучыўся, карыстаецца падказкамі прафесійных жывапісцаў.

— Жыву я ў Рыбаках, займаюся крыху сваёй невялікай гаспадаркай. Калі ёсць натхненне, малюю. Прабываю сярод прыроды і стараюся на сваіх працах паказаць цікавыя краявіды вакол нашай вёскі. Раней стараўся вельмі рэалістычна адлюстроўваць прыроду, з усімі яе дэталямі. Пазней пачаў шукаць новае, адыходзіць ад рэалізму ў бок абстрактнасці. Нават малюючы краявіды, стараюся паказаць сваё бачанне акружаючага мяне свету. На іншых, больш абстрактных работах, стараюся праявіць больш сваіх эмоцый. Адну работу прысвяціў паказанню стану смутку, а нават дэпрэсіі. Пачаў я маляваць партрэты, якія не адлюстроўваюць рэалістычнага выгляду людзей, а паказваюць пэўныя перажыванні і эмоцыі. Раблю творчыя пошукі, стараюся адлюстраваць задуманае, карыстаючыся адпаведнай тэхнікай. Малюю таксама сакральныя аб'екты, — расказваў Станіслаў Паскробка пасля адкрыцця выставы.

Карыстаючыся мяшанай тэхнікай, мастак выканаў выявы Хрыста і Божай Маці, якія таксама прывёз на выставу ў Гайнаўскі дом культуры.

— Спадар Станіслаў Паскробка малюе цікава, адыходзячы ў бок абстрактнасці. На асаблівую ўвагу заслугоўваюць яго пейзажы. Аднак цікавыя таксама яго партрэты і іншыя працы. Відаць, што яны штораз лепшыя і ў апошнім перыядзе падчас Агляду непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі спадар Паскробка часта атрымліваў галоўныя ўзнагароды ў катэгорыі жывапісу. Прызавыя месцы займаў таксама на іншых аглядах, а свае працы паказвае на калектыўных і персанальных выставах. Яго пераможныя работы штогод прэзентуюцца на конкурсных выставах Аглядаў непрафесійнага мастацтва. Паказвалі мы таксама працы спадара Станіслава ў большай колькасці, а цяпер рашыліся запрэзентаваць навейшыя яго карціны на персанальнай выставе. На адкрытай сёння выставе відаць, куды зайшоў непрафесійны мастак з Рыбакоў, робячы творчыя пошукі. Ідзе ён у бок абстрактнасці, але робіць гэта па-свойму. Прафесійныя жывапісцы станоўча ацэньваюць яго цікавыя карціны і індывідуальны падыход да мастацтва, калі на сваіх работах паказвае перажыванні і эмоцыі. Спадар Паскробка плённы мастак. Свае шматлікія працы раздае або прадае, каб частку заработку прызначыць на фарбы і прылады для малявання. Я хацела б, каб як найбольш гайнавян, наведваючы выставу, зацікавілася карцінамі Станіслава Паскробкі, — распавяла старшая інструктар ГДК па справах мастацтва Анна Тарасюк, якая займалася падрыхтоўкай экспазіцыі.

Станіслаў Паскробка малюе акрылавыя, пастэльныя і алейныя працы, выконвае мастацкія работы, карыстаючыся мяшанымі тэхнікамі і дапаможнымі матэрыяламі.

— Я малюю таму, што ў мяне ёсць такая ўнутраная патрэба. Інспірацыю бяру найчасцей з натуры, паколькі мяне вельмі цягне да прыроды. Мяне цікавяць працы сімвалістаў і каларыстаў. Мне цікава паказваць задуманае з дапамогай колераў. Малюю краявіды, якія бачу вакол Рыбакоў, але на маіх працах можна ўбачыць пейзажы з Белавежскай пушчы і больш аддеглых мясцін. Карыстаючыся сімвалічнымі прыёмамі, намаляваў я, напрыклад, краявід са Шлёнска. Хачу, каб наведвальнік экспазіцыі па-свойму ўспрыняў мае карціны, якія адкрыты на гледача. Я свае эмоцыі пераліваю на палотны, а публіка мае права інакш успрымаць намаляванае мною, чым я сам, — заявіў Станіслаў Паскробка.

Раней мастак больш рысаваў, спрабаваў разьбярыць, а зараз малюе і на дошках, звяртаючы ўвагу на структуру драўніны. На адкрыццё выставы прыбыла старшыня Рады Гайнаўскага павета Валянціна Пятрочук. Звярнула яна ўвагу на краявіды Белавежскай пушчы і яе наваколля, якія цікавыя не толькі мясцовым жыхарам, але і турыстам, а таксама на нестандартнае паказванне рэчаіснасці мастаком і на разнароднасць жанраў яго мастацтва, дзе побач пейзажаў можна ўбачыць больш абстрактныя работы і своеасаблівыя партрэты.

«Творчасць Станіслава Паскробкі без сумнення сведчыць аб наяўнасці ў жыцці праўдзівага самароднага мастака ўнутранай патрэбы, які з пасіяй і ахвярнасцю, насупраць усялякім складанасцям, неразуменню, а нават асмейванню, на якія натыкаецца, устойліва стварае рэчаіснасць уласнага мастацтва», — напісаў Марк Дыбак у магістарскай працы (яго выказванне было надрукавана ў буклеце, прысвечаным выставе спадара Паскробкі ў ГДК). Дабавіў ён таксама, што жывапісец з Рыбакоў у сваім мастацтве знаходзіць сэнс свайго жыцця. Станіслаў Паскробка ўдакладніў, што праз мастацкія працы можа са сваімі эмоцыямі выйсці да шырокага кола гледачоў.

— Ужо некалькі разоў прыязджаў да мяне Мікола Ваўранюк з брыгадай Беластоцкага тэлебачання здымаць матэрыялы наконт майго жывапісу, якія прэзентаваліся ў «Беларускім тыдні» і іншых тэлеперадачах. З дапамогай сродкаў масавай інфармацыі магу паказаць свае парцы і мой падыход да жывапісу шырокаму колу грамадства, — гаварыў Станіслаў Паскробка.

Станоўча пра жывапіс Станіслава Паскробкі напісаў Міраслаў Грыка.

— Мірак Грыка, якога фельетоны публікуюцца ў тыднёвіку «Ніва», жыве па-суседску са мной. Мы размаўляем на розныя тэмы, таксама пра мастацтва, у тым ліку пра жывапіс, — заявіў спадар Паскробка.

— Я пад вялікім уражаннем ад прац Станіслава Паскробкі. Хаця спадар Станіслаў непрафесійны мастак, малюе ён цікава і адважна, карыстаючыся рознымі мастацкімі прыёмамі. Гледзячы на яго працы, відаць добры мастацкі варштат іх аўтара, — заявіў гайнаўскі прафесійны мастак Юры Івацік, які вядомы гайнавянам перш за ўсё з-за скульптуры, якую выконвае ў час гайнаўскага разьбярскага пленэру.

На адкрыццё экспазіцыі прыбыў таксама жывапісец са Старога Беразова Мікола Яноўскі. Успамінаў ён, як у мінулым годзе ў час Агляду непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі разам са Станіславам Паскробкам атрымалі раўнапраўныя ўзнагароды ў катэгорыі жывапісу. Ад многіх гадоў спаборнічае ён са сваім сябрам у час згаданага агляду.

— За свае працы я атрымліваў таксама ўзнагароды на Аглядзе аматарскай мастацкай творчасці Падляшскага ваяводства ў Беластоку. Мае работы паказваліся на калектыўных і персанальных выставах у Гайнаўцы і Беластоку. Мае працы прэзентаваліся, між іншым, на выставе ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. Тады быў выдадзены каталог з інфармацыяй аб карцінах і маёй мастацкай актыўнасці, — удакладніў Станіслаў Паскробка, маючы на ўвазе экспазіцыю ў рамках праекта «Беларускі алфавіт мастацтва», калі выдадзены быў каталог, які ўвайшоў у састаў «Слоўніка беларускіх мастакоў».

Карціны Станіслава Паскробкі прэзентаваліся таксама ў Сямятычах, Супраслі і Варшаве, знаходзяцца ў калекцыях у Італіі, Францыі і Германіі.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**





# Патавая сітуацыя

Ну дык вось! Кіраўнік Расійскай Федэрацыі ў свой час заявіў, што Беларусь мусіць увайсці ў Расію часткамі або цалкам. Кіраўнік Беларусі наконт гэтага пытання нібыта мае ўласную думку. І яна кардынальна адрозніваецца ад меркавання расійскага лідара. Ён, перад паездкай на сустрэчу са сваім расійскім калегам, таксама зрабіў заяву, што Беларусь не ўвойдзе ні ў якую іншую краіну, у тым ліку і ў братнюю Расію. Здавалася б, што гэтым хлопцам, пасля іх цвёрдых і неадназначных заяў, размаўляць больш няма пра што. Наконт інтэграцыі маю на ўвазе. Але яны чамусьці і чагосьці сустрэліся...

Наконт інтэграцыі сустрэліся.

Выпіць ім няма з кім, ці што?! Ну чаго сустракацца па пытанні паглыблення інтэграцыі пасля такіх цвёрдых заяў?! Тут мазгі вывіхнуць можа самы дасведчаны розум. А колькі разумных галоў зайшлі ў тупік, разважаючы наконт гэтага пытання. І чарговы тэрмін расійскаму лідару прыпісвалі як галоўную прычыну такой сустрэчы, і недахоп вуглевадародаў і іншых энергарэсурсаў у беларускага кіраўніка... Зрэшты, энергарэсурсы закончыліся прама на той сустрэчы. Пасля прывітальных слоў у зале гэтай сустрэчы на найвышэйшым роўні прапала электрычнасць. Ток скончыўся.

Ці скончыўся там газ прэсавыя службы не паведамілі. Ды і не важна гэта. Галоўным па-ранейшаму заставалася пытанне пра сапраўдныя прычыны гэтай сустрэчы. Ну і праўда. Чаго сустракацца, калі ўсё важнае і галоўнае ўжо сказалі?! Прычым публічна! Ну а больш дробныя пытанні можна і па WhatsApp-у вырашыць, ці па іншым месэнджары. Кажуць, што ступень абароны і немажлівасць праслухоўвання гэтых камерцыйных сродкаў камунікацыі ўжо даўно пераўзышла шпіёнскія. Ну і зэканоміць можна было б на грашах, калі ў расійскага і беларускага кіраўнікоў інтэрнэт безлімітны, канешне ж. Увогуле бясплатна пагаварылі б тады. Цяпер наконт гэтага столькі мажлівасцей, што ўсялякі роўмінг абмінуць можна.

Але хіба што найбольш блізка падышоў да разгадкі гэтага пытання былы спікер беларускага парламента Мечыслаў Грыб. Ён растлумачыў склаўшуюся сітуацыю адным сказам. А менавіта, што сённяшнія начальнікі Беларусі і Расіі ўжо не могуць больш зысціся чым зышліся, але і разысціся не могуць таксама. У шахматах такая сітуацыя называецца патавай.

Толькі ў адрозненні ад шахматаў, пат пастаўлены і белым фігурам, і чорным адначасова. Чыста тэарэтычна гэта нібыта немажліва. Але на практыцы, як мы бачым, здараецца. Абодва каралі знаходзяцца пад шахам і патам адначасна. І гэта значна горш, чым абодвум быць пад матам.

Ох, гэтыя шахматы! Адзіная гульня, дзе невядомы рэальны супраціўнік. І конь можа бяды нарабіць, і пешка. Ніколі невядома, хто зараз пойдзе. Асабліва, калі кароль пад шахам, матам і патам адначасова.

Яшчэ больш парадаксальна тое, што ніхто не ведае чый зараз ход. Бо той, каму трэба хадзіць, і ёсць прайграўшым. А гэта не тыя людзі, якія могуць прызнаць свой пройгрыш. Тым больш, што падобная сітуацыя не новая. Нават не запатэнтуеш.

Вось нядаўна ў Вялікабрытаніі саміт краін НАТА праходзіў. Блок такі вайсковы ёсць. Ну дык там Расію прызналі найбольш верагодным супраціўнікам усе чальцы таго блока. Але адзін з чальцоў НАТА, Турцыя, купляе менавіта ў Расіі ракетныя комплексы С-400. Ну і нічога. А другі, Нямеччына, увогуле збіраецца праз новы газапровад «Паўночны струмень-2» прафінансаваць войскі верагоднага супраціўніка. І таксама нічога. Я ўжо не кажу пра падобную сістэму калектыўнай бяспекі на паслясавецкай прасторы, так званае АДКБ, дзе ў сярэдзіне гэтай структуры ўжо не аднойчы вайсковыя канфлікты пачыналіся.

Таму ўсялякае падпісанне нейкіх папер пра інтэграцыю, ці пра вечнае каханне, ці яшчэ пра што, толькі ўзмацняюць верагоднасць такога канфлікту. Гэта як колішні сумнавядомы пакт Молатава-Рыбентропа. Нібыта пра мір падпісвалі, і пра ненападзенне адзін на другога... Ну падпісалі і падпісалі... Папера ўсё сцерпіць. Цяпер да гэтага падпісання ніхто не прызнаецца. Ну і ў Молатава не спытаеш, і ў Рыбентропа таксама. Яны і пры жыцці не асабліва пра той пакт расказвалі. Ну а зараз дык і тага больш.

Ну а каму там шах, мат, або пат, адразу і не скажаш. Бо гульбакі гуляюць гэтую шахматную партыю значанымі картамі. А ў такой гульні аніякіх правіл не бывае.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Разам альбо паасобку

Наша цывілізацыя сутыкнулася з вельмі сур'ёзнай праблемай. Яшчэ раз у нашай гісторыі нам трэба тэрмінова адказаць на пытанне, хто мы. Гэта надзённае і нават вельмі гарачае пытанне. Вось, у Кітаі нарадзіліся першыя генетычна мадыфікаваныя дзеці. Пачалося нявінна. Устаноўлена, што невялікая мадыфікацыя ўнутры пэўнага гена, зробленага ў эмбрыёне чалавека, абараняе ад СНІДу. Аднак выпадкова было выяўлена, што тая ж мадыфікацыя таксама аказвае вялікі ўплыў на функцыі мозгу, павялічваючы яго інтэлектуальныя і памятныя здольнасці. Больш на сто працэнтаў. Ці можа здзіўляць, што гэта даследаванне не было спынена, нягледзячы на пратэсты з усяго свету? Не было інакш, як гады таму, калі апладненне ў прабірцы ўдасканальвалася ў навукова-даследчых лабараторыях. Сёння большасць з нас гатовы прыняць гэта, не задумваючыся, ці перайшлі мы межы нашага чалавецтва і як далёка. Верагоднасць таго, што ў агляднай будучыні нам удасца павялічыць IQ чалавека шляхам генетычнай трансфармацыі, вельмі вялікая. Варта памятаць, аднак, што кожная мадыфікацыя ДНК мае пэўныя наступствы — больш-менш значныя — у працы мозгу. Наколькі гэты мозг будзе падобным, чытайце: нечужым, не варожым да нашых немадыфікаваных мазгоў? І ці будзем мы называць яго чалавечым мозгам?

Маніпуляванне чалавечым ДНК — гэта адно. Другое, гэта кіберінфільтрацыя чалавечага жыцця. Некалькі тыдняў таму расійская кампанія абвясціла, што цалкам асвоіла тэхніку алічбоўкі, то ёсць лічбавую апрацоўку асобы чалавека разам з аднаўленнем яе індывідуальнага аблічча. У якой ступені гэта праўда — няважна! Гэта чалавечая фантазія вызначае будучыню. Тое, што немагчыма сёння, можа стаць рэальным заўтра. «Цяпер кожны зможа замовіць робата любога выгляду для асабістага або прафесійнага выкарыстання», — сказаў прадстаўнік кампаніі. Ён нават праілюстраваў гэта прыкладам рэплікі Шэкспіра, якая чытала б свае ўласныя тэксты ў музеі. У сваю чаргу я адразу падумаў пра нядаўнюю сустрэчу прэзідэнтаў Пуціна і Лукашэнкі ў Сочы. Там яны абмеркавалі сур'ёзнае пытанне, магчымае паглыбанне Беларусі Расіяй. Сёння я б не адказаў галавой, што гэта не сустрэча дзвюх рэплік прэзідэнтаў! Тым больш што расійская кампанія ў цяперашні час прапануе алічбаваныя робаты па даступнай цане ад 20 да 50 тысяч долараў за асобнік. Яны пакуль не могуць хадзіць, бо вырабляюцца ў выглядзе тулава з галавой. Але калі садзіш іх за стол, яны выглядаюць жывымі. Лічбавая рэвалюцыя зрабіла дзіўны прарыў у нашым успрыманні рэчаіснасці — усё менш яна тое, што нам здавалася да сёння. Маё пакаленне яшчэ можа адрозніць рэальны і віртуальны свет. Новыя пакаленні будуць мець з гэтым сур'ёзныя праблемы. Дык што ж вызначае наша чалавецтва? Якая для яго непраходная мяжа? Ці з'яўляецца апладненне ў прабірцы адным з самых эфектыўных спосабаў прадухілення бясплоддзя? У гэтым плане Каталіцкі касцёл заняў незразумелую пазіцыю, проста заявіўшы, што экстракарпаральнае зачацце заганнае, згодна з тэалагічнай этыкай. Аднак бясплоддзе не падпадае пад азначэнне паняцця чалавецтва. Гэта другаснае пытанне — хаця і экзістэнцыяльна першаснае, асабліва для тэхналагічна развітых заходніх грамадстваў. Арабскія ці афрыканскія краіны, менш прасунутыя ў плане цывілізацыі, не маюць з гэтым праблем. Тым не менш, праблема вызначэння чалавецтва і яго межаў з'яўляецца агульнай для ўсяго чалавечага віду і павінна разглядацца ва ўсім свеце ў тэрміновым парадку. Чалавек ва ўсёй сваёй разнавіднасці не можа ісці ў нагу з тэхналогіямі і навукай. Ён не асвойвае іх ані думкай, ані псіхічна. У выніку губляе кантроль над імі. Наша ўласная цывілізацыя пачынае нас перарастаць. Сярод даследчыкаў і навукоўцаў ва ўсім свеце — спецыялістаў па вузкім кавалачку сваіх навуковых інтарэсаў — колькі з іх насамрэч разумее ўсе аспекты навуковага прагрэсу? Некалькі ці дзясятак? А як наконт незлічонай астатняй чалавечай масы, якая нават не хоча разумець прынцып мікрапрацэсара; для яе дастаткова, што яна можа карыстацца мабільным тэлефонам або ноўтбукам. Гэтак жа, як прагрэс размеркаваны нераўнамерна на карце чалавечага насельніцтва, так і разуменне прагрэсу не з'яўляецца паслядоўным і аднастайным для ўсіх людзей. Яны разумеюць яго па-рознаму, што можа здзіўляць у эпоху глабальнага абмену інфармацыяй.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Кветкі Каліноўскаму

Два тыдні назад, у сераду і пятніцу, Падляшша з гаспадарча-гістарычнымі візітамі наведалі прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда і прэм'ер-міністр Матэвуш Маравецкі. Візіты праз дзень першых палітыкаў дзяржавы выклікалі ў мяне пытанне, чым заслужыў наш рэгіён на такую звышрэпрэзентацыю дзяржаўных чыноў. Відаць, найхутчэй гэта патрэба пастаяннай мабілізацыі польскага грамадства на патрэбы маючых адбыцца ў наступным годзе прэзідэнцкіх выбараў. Калі візіт прэзідэнта быў, так мовіць, канцыляцыйна-выбарчым, то прыезд і выказванні прэм'ер-міністра Матэвуша Маравецкага абышліся значна большай увагай з боку так грамадства, як і медыяў.

У нашым выпадку трэба таксама засяродзіцца на некаторых элементах гэтай падзеі. Візіт прэм'ера на пагранпераходзе Кузніца-Брузгі быў з гатунку моцнага шэрыфа і меў на мэце яшчэ раз паказаць, як польская дзяржава паспяхова змагаецца з любой кантрабандай, ці гэта будуць папяросы ў нас, ці паліва на заходняй мяжы. Далей Матэвуш Маравецкі перамясціўся ў Мастаўляны, дзе ў атачэнні дзяржаўных і самаўрадавых палітыкаў усклаў кветкі да помніка Кастусю Каліноўскаму, выказваючы класічную фармуліроўку, што найважнейшы ўраджэнец гэтага кутка свету з'яўляецца адначасна героем трох народаў: беларускага, польскага і літоўскага. Улада ўскладала кветкі, а мясцовы народ традыцыйна трымаўся збоку. Вядома, што гаспадар — войт гміны Веслаў Кулеша выконваў свае абавязкі з поўнай адказнасцю, дараючы таксама і прэм'еру кніжкі аб праваслаўі.

Пасля віленскіх пахаванняў парэшткаў Кастуся Каліноўскага, Зыгмунта Сераkоўскага і іншых паўстанцаў, дзе беларусы былі знакамітай большасцю, тут, менавіта ў Мастаўлянах, гэтага беларускага каэфіцыента не было відаць і чуваць. А шкада. Зусім інакш выглядала б гэтая ўрачыстасць, калі б да супольнага ўскладання кветак запрошанае было б, напрыклад, Беларускае гістарычнае таварыства з Беластока. Сам Матэвуш Маравецкі як гісторык і палітык дакладна разумее як важная з'яўляецца мова жэстаў у міжнацыянальных і міждзяржаўных адносінах. Дарэчы, бягучая польская гістарычная і замежная палітыка безупынна патрабуе ад сваіх суседзяў такіх жэстаў прабачэння. Як гэта не парадаксальна, але ў гэты дзень згаданае таварыства ладзіла ў Беластоку канферэнцыю, прысвечаную Івану, а таксама пасрэдна Антону Луцкевічам, адным з бацькоў ідэй беларускай незалежнасці ў пачатках дваццатага стагоддзя. Іван Луцкевіч пахаваны ў горадзе Закапанэ, а Антон Луцкевіч стаў ахвярай савецкіх лагераў. Прытым сам на сабе спазнаў усе супрацьстаянні польскай палітыкі да яго і беларускай справы. Калі гаварыць з пункту гледжання міждзяржаўных адносін, а Польшча зараз дружыць з беларускімі ўладнымі структурамі, то ў Беластоку знаходзіцца Генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь, якое можна было таксама запрасіць да супольнага ўшанавання. Нагадаю толькі, што віцэ-прэм'ер Беларусі быў літоўскім урадам запрошаны ў Вільню ў ролі паўнапраўнага палітычнага суб'екта. Тут, у выпадку Падляшша, усё вельмі хутка вярнулася ў свае гістарычна-палітычна-міжнацыянальныя каляіны згодна з традыцыйным клічам «хай будзе, як было». Пазітыўным элементам парадку візіту Матэвуша Маравецкага ў гэтым месяцы лічу факт, што многія польскія палітыкі кіруючай зараз ваяводствам партыі даведаліся, што ў Мастаўлянах знаходзіцца помнік Кастусю Каліноўскаму з мемарыяльнымі шыльдамі на польскай і беларускай мовах.

Калі ў Мастаўлянах не было афіцыйных выказванняў прэм'ера, то ў час пазнейшай, вечаровай сустрэчы ў Беластоку з актывам Права і справядлівасці прагучалі ягоныя словы таксама і наконт суседкі Беларусі:

«Мы павінны таксама памятаць пра нашых беларускіх суседзяў, памятаць пра іх са стратэгічнага пункту гледжання. Мы хочам, каб яны некалі далучыліся да захаду Еўропы, хоць геаграфічна яны знаходзяцца на ўсходзе. Мы жадаем ім гэтага, жадаем, каб яны жылі ў згодзе з палякамі. Мы, канешне, хочам гэтай згоды, але нашы інтарэсы, нашу культуру, нашу польскасць будзем, і гэта зразумела, заўсёды бараніць».

**Яўген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# Мой любімы беларускі конкурс — «Дэбют»!

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Я стала настаўнікам, каб вучыць дзяцей роднай мове, каб ім паказваць што нашы простыя словы ў хатах, на вуліцы, на рынку гэта беларускія словы, што гэта наша спадчына, якую трэба берагчы.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Мой ідэал — спадарыня Ганна Кандрацюк, якая вучыла мяне беларускай мове ў гімназіі ў Нараўцы.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Супрацоўнічаю з настаўнікамі з Нараўкі — з Ганнай Кандрацюк, з Гарадка — з Аннай Грэсь, з Гайнаўкі — з Янкам Карчэўскім.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Я заўсёды магу лічыць на новыя тэксты ў «Ніве», на якіх можна рэалізаваць тэмы з граматыкі і арфаграфіі. АБ-БА таксама дапамагае падручнікамі і іншымі выданнямі.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— У гэтым годзе мы гулялі ў *webquest*, дзе вучні пятага класа ў групах рыхтавалі прэзентацыі на тэму «Як вучацца равеснікі ў Беларусі».

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— «Дэбют» — Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы, арганізаваны «Нівай».

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Калі патрэбна дапамога, заўсёды знойдзецца добраахвотнік.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для Вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для мяне козыр. Прыходзяць вучні, якія хочуць працаваць і гэта добра.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Ёсць такія класы-групы, дзе ўсё можна зрабіць за тры гадзіны, але часам на астатніх занятках ім проста ўжо цяжка працаваць, калі гэта 7 і 8 гадзіна ў школе.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік?**

— Яшчэ няма.

**— Ці, паводле Вас, падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Толькі падручнікі аб'яднання АБ-БА дапасаваныя да сучаснасці.



Спадарыня Эмілія Грыко з сынком

**Эмілія ГРЫКА** — нарадзілася ў 1978 годзе. З 2013 года працуе настаўніцай беларускай мовы ў Міхалове. Жыве ў Беластоку.



Настаўніца са сваімі сынкамі

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— Мой любімы падручнік гэта «Лемантар».

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Мой любімы беларускі аўтар гэта Віктар Швед.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Актуальна чытаю «Успаміны» Анелі Катковіч і Вэранікі Катковіч-Клентак.

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Чытаю беларускую прэсу.

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Цяжка назваць адно самае цікавае мерапрыемства.

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Так. Я гавару да вучняў па-за ўрокамі па-беларуску.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Так.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Няма такога.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Не.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Ад двух гадоў я атрымліваю ўзнагароды за сваю працу ў сваёй школе.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Мая сіла і натхненне гэта вучні, якія ўваходзячы ў клас адразу пытаюцца: «Што будзем сёння рабіць?», а мне трэба быць добра падрыхтаванай.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Самы цудоўны ўспамін гэта мае вучні, якія ў час падарожжаў спяваюць вывучаныя на занятках беларускія песні.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— Мой клас упрыгожвае беларускі сцяг.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Пра будучыню беларусаў цяжка сказаць, усё менш самасвядомасці ў людзей.

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

## Абочыны дарог

Бягуць гады і некаторыя павятовыя дарогі на тэрыторыі Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета зноў патанаюць у зарасніках. Найбольш іх, густая суцэльная сцяна, між іншым, паабапал павятовай асфальтавай дарогі ад скрыжавання дарог дзвюх гравіек, якія бягуць адна з Новага Ляўкова і другая з Міхнаўкі ды асфальтавай са Старога Ляўкова ў Лешукі. Тут на абочынах дарогі выраслі кусты вербалозу і алешніку.

Абступленай зараснікамі дарогай небяспечна ехаць. Бачнасць на дарозе звужаецца. Невядома, што і калі можа выскачыць на маставую. Здарыўся тут смяротны выпадак. З-за браку прадбачлівасці ды неасцярожнасці пад коламі хутка едучай аўтамашыны загінула жанчына са стараляўкоўскай каленіі. Таму неабходна ссячы кусты на насыпах дарог і ў прыдарожных равах. Чым хутчэй, тым лепш. **(яц)**

## Драўляныя дамы

Вёска Лешукі Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета налічвае семдзесят дамоў і 112 жыхароў. Найбольш дамоў стаіць паабапал асфальтавай дарогі. Сяло знаходзіцца на веласіпедным шляху Green Velo і тут ёсць прыстанішча для цыклістаў. У сяле была раней прыгожая аднапавярховая пачатковая школа (цяпер яе няма). Ездзілі рэйсавыя аўтобусы ПКС з Гайнаўкі ў Беласток, між іншым, цераз Нараўку, Гарадзіска, Плянту, Новае Ляўкова, Старое Ляўкова і Лешукі. Цяпер няма ніводнага. Каб паехаць у Беласток або Гайнаўку, трэба падацца ў суседнюю Сушчу Міхалоўскай гміны. Гэтая вёска на правым беразе ракі Нарвы. Прыгожая драўляная міні-пачакальня на колішнім лешуцкім аўтобусным прыпынку стаіць. На добры ўспамін.

Зараз ёсць тут новапабудаваная прыгожая мураваная святліца. Лешукі — вёска без тратуара. Вяскоўцы, відома, не ўсе (было так, што ў адной і той самай сям'і жонка была за, а яе муж супраць пракладкі), сказалі на сходзе, што тратуар ім непатрэбны.

У Лешуках прыгожыя драўляныя дамы (іх каля сарака). Маюць іх, між іншым, Кацярына і Ян Марціновічы, Эва Зялінская, Рафаіл Кандрацюк, Лідзія Харкевіч ды Марыя і Тадэвуш Кунцэвічы. Белым сайдынгам абабілі свае драўляныя дамы Юрый Кунцэвіч і Казімір Мікса. Некаторыя жыхары вельмі дбаюць пра выгляд сваіх хат. Рамантуюць іх, малююць на прыгожыя колеры. Паставілі новыя драўляныя платы. З ранейшых драўляных жылых будынкаў, якія я памятаю, шмат адышло ўжо ў нябыт. Адзін апусцелы і прызабыты ў пачатку Лешукоў стаіць у зарасніках. **(яц)**

## Пачакальня

Зараз у Гайнаўцы няма пачакальні для пасажыраў аўтобуснай камунікацыі ПКС і прыватнага пасажырскага аўтатранспарту. Раней была ў старым двухпавярховым драўляным будынку. Працавалі ў ёй дзяжурны руху, білетная каса і туалет. У халодны зімовы дзень было куды зайсці і нават пасядзець на лавачках (вядома, калі не былі заняты ўсе месцы), пачакаць у цяпле свайго аўтобуса. Нейкі час можна было карыстацца пачакальняй на чыгуначным вакзале ПКП (тут былі білетныя касы, бар на другім павесрсе і туалет). Але і тую закрылі. Тут на вялікай пляцоўцы былі таксама два пероны для аўтобусаў ПКС, лавачкі і прыгожыя прыстрэшкі-навесы. Пасажырам было выгадна.

Зараз прыйшла халодная пара года. Пасажырам (іх збіраецца многа і едуць у розных напрамках) прыходзіцца чакаць „свайго" аўтобуса на тратуары на вуліцы 3 Мая ды пад адкрытым небам. Пад невялікім прыстрэшкам-навесам можа схавацца ад ападкаў — цяпер ад дажджу або снегу — усяго 5-6 чалавек. Гэтым аўтобусным прыпынкам карыстаюцца таксама пасажыры гарадской камунікацыі лініі № 1. Пачакальня для пасажыраў у павятовым горадзе патрэбная. Улады Гайнаўскага павета — староста і радныя — павінны пра гэта паклапаціцца. Не забывайце пра сваіх выбаршчыкаў. **(яц)**

# Міхалова — развойная гміна



https://bialystok.naszemiasto.pl

Велізарныя грошы, атрыманыя ад ЕС на інвестыцыі і новыя сацыяльныя праграмы для жыхароў — так карацей можна паведаміць пра бюджэт на наступны год Міхалоўскай гміны. Падчас сесіі Гарадской рады 21 лістапада быў прадстаўлены праект бюджэту гміны на 2020 год. Даход запланаваны ў памеры 38 249 092 злотых, а выдаткі на ўзроўні 38 219 092 злотых. Такім чынам — Міхалова будзе мець прафіцыт бюджэту ў 30 тысяч злотых, які плануецца выкарыстоўваць для аплаты растэрміноўкі крэдытаў.

— Калі ўдасца рэалізаваць гэты бюджэт і атрымаць усе запланаваныя на інвестыцыі сродкі, верагодна, будзем самай развіваючайся гмінай, — радаваліся радныя.

Радныя не дадалі ані адной папраўкі ці запыту ў праект рэзалюцыі аб бюджэце. Найбольш эмоцый выклікалі запланаваны на наступны год інвестыцыі. А на інвестыцыі і сацыяльную дзейнасць плануецца прызначыць амаль 7 мільёнаў — гэта рэкордны бюджэт на наступны год.

З гэтых сродкаў 4 мільёны 850 тысяч злотых размяркуецца на інвестыцыі (3 млн. 250 тысяч для праектаў, якія ўжо атрымалі фінансаванне) і 1,9 млн. злотых — на сацыяльную дзейнасць.

— У нас быў выбар, на што выдаць грошы. Магчыма, іншыя вырашылі б пагасіць запазычанасць гміны альбо ўклалі б гэтыя грошы ў дэпазіт 2%. Можна было б таксама фінансаваць так званыя бягучыя выдаткі — інакш „канцэрт пажаданняў", — казаў радным мэр Міхалова Марк Назарка. — Аднак мы вырашылі ўкласці гэтыя грошы ў праекты, якія будуць служыць нам і нашым дзецям у бліжэйшыя гады.

Гаворка пра шэсць інвестыцый: захаванне каштоўных прыродных рэсурсаў у вадасховішчы Семяноўка — сродкі ад Міхалова і ЕС (кошт інвестыцыі: 9 533 183 зл., суфінансаванне — 6 825 358 зл., бюджэт гміны: 2 707 825 зл.); мадэрнізацыя вулічнага асвятлення ў горадзе: Міхалова — ЕС (кошт інвестыцыі: 849 432 зл., суфінансаванне: 630 509 зл., бюджэт гміны: 218 923 зл.); будаўніцтва энергаэфектыўнай цеплавой сеткі — ЕС (кошт: 4 558 760 зл., суфінансаванне: 3 500 392 зл., бюджэт гміны: 1 058 368 зл.); рэканструкцыя гмінных дарог у вёсках Бяндзюга, Супруны, Калясное — сродкі ад ваяводы (кошт: 1 202 711 зл., суфінансаванне: 601 355 зл., бюджэт гміны: 601 355 зл); рэканструкцыя гміннай дарогі ў вёсцы Кабылянка — сродкі ад ваяводы (кошт: 1 501 396 зл., суфінансаванне: 647 133 зл., бюджэт гміны: 647 133 зл.); пашырэнне доступу да паслуг для асоб старэйшага ўзросту — ЕС (кошт: 604 280 зл., суфінансаванне: 507 595, бюджэт гміны: 96 685 зл.).

На другім месцы ў рэзервным спісе праектаў з высокімі шанцамі на фінансаванне ёсць рэканструкцыя станцыі ачысткі вады з падключэннем да сістэмы водазабеспячэння і выкананне ачышчальнай станцыі для грамадскіх аб'ектаў — ЕС (кошт: 3 916 133 зл., суфінансаванне: 1 958 065 зл., бюджэт гміны: 1 958 065 злотых). Яшчэ 12 праектаў для фінансавання, якія прадставіла Міхалоўская гміна, чакаюць ацэнкі. Да гэтага часу атрымана датацыя ў памеры 12 800 000 злотых.

— Гэта велізарныя змены ў параўнанні з мінулым годам. У рэшце рэшт, у 2018 годзе наша гміна не атрымала нават 1 залатоўкі з фондаў ЕС, а сёлета маем амаль 13 мільёнаў злотых. Гэта выдатныя весткі, — адзначыла Марыя Бажэна Анціпюк, старшыня Гарадской рады Міхалова.

Але гэта яшчэ не ўсё. На суму 750 тысяч злотых гміна плануе праекты па рамонце ў наступным годзе, у тым ліку рэканструкцыю вуліц, будынкаў, будаўніцтва прыпынку, дзіцячых пляцовак, сметніц, лавак і іншага. Яшчэ 400 тысяч былі выдзелены для ўцяплення будынкаў. 150 тысяч злотых былі таксама адведзены пад будаўніцтва пад'ездаў да гаспадарак. У 2019 годзе радныя ў Міхалове вырашылі, што гміна пачне будаваць дамы для жыхароў. У 2020 годзе для гэтага будзе створана кампанія „Niezapominajka" (ад старой назвы Міхалова — Нязбодка), якая будзе гэтым займацца — на будаўніцтва было выдзелена 150 тысяч злотых.

Аж 1,9 млн. злотых у бюджэце Міхалова на наступны год плануецца забяспечыць для сацыяльных дзеянняў. Гэта 470 тысяч для няўрадавых арганізацый і асацыяцый; 200 тысяч злотых на падтрымку прадпрымальнікаў; 130 тысяч злотых на прамоцыю гміны; 350 тысяч зл. на камунальны транспарт; 300 тысяч зл. на дапамогу самым малазабяспечаным жыхарам (так званы „2000 плюс"); 450 тысяч зл. на Моладзевы цэнтр і сельскія цэнтры (уключаючы ў іх лік дапамогу пажылым людзям, так званую „залатую ручку").

**(лук)**

# Кузаўскі ўспамін (7)



Прыгадваюцца мне даўнейшыя вясковыя забавы. У Кузаве было шмат моладзі, ды і музыканты свае былі. Самым старэйшым лічыўся Грыша Рэпка, які жыў за сялом у казарме пры даўнейшым брэсцкім пуці. Грыша любіў спяваць. Ведаў шмат песень — польскіх, савецкіх, украінскіх. Карыстаўся цудоўным голасам. Весяліў публіку на вячорках. З маладога пакалення вырасталі Вася Раманчук ды Янка Саўчук. Гэтыя ў «прыпражку» бралі з кампаніі бубнача Валодзю Калішэвіча. Грыша, мой дваюрадны братуха, іграў на пару з кляшчэлеўскімі хлопцамі — трубачом Янкам Сасноўскім ды бубначом, якога прозвішча не захавалася ў памяці. На прыхадское свята, напрыклад, на Тэклю кавалерка наймала чужых музыкантаў. На заплату «аркестра» (калектыў з трох чалавек) складаліся старэйшыя хлопцы. Неаднойчы патрабавалі складчыны ад малодшых калег, калі не хапала грошай аплаціць аркестр. Пачастунак музыкантам арганізавалі дзяўчаты. На кузаўскія забавы збіралася шмат моладзі з навакольных сёл: Вулькі-Тэрахоўскай, вёскі Чаромхі, Ставішчаў, Дабрывады, Чаромхі-Станцыі, Апакі а нават з далейшай прыгранічнай Баброўкі. Не ўспамінаю старэйшых гасцей, якія з нагоды прыхадскога царкоўнага фэсту наведвалі сваякоў у Кузаве. Варта прытым адзначыць, што на кузаўскіх забавах моладзь гуляла культурна. Не было п'яных боек ці скандалаў. За парадкам наглядалі арганізатары, якіх прозвішчы стаялі ў прашэнні на дазвол арганізаваць мерапрыемства. Такі дазвол выдаваў Павятовы аддзел культуры ў Гайнаўцы, пасведчаны раней пастарункам мясцовай міліцыі. Але штосьці непрадбачанага здарылася на Тэклю ў 1962 годзе. А было гэта так.

У Кузаве захоўвалася традыцыя ладзіць святочныя вечарыны для прызыўнікоў у армію. У такім мерапрыемстве ўдзельнічалі хрышчоныя бацькі прызыўніка, сямейнікі з суродзічамі ды сябры з кампаніі. Гасціна доўжылася да позняй ночы. Братуха Віктар прызываўся камісіяй у Гайнаўцы вясною 1962 года. Разам ставіліся двух іншых аднагодкаў з Кузавы — Коля Андрушкаў і Федзя Міхалішын. Я тады працаваў у Гарадской радзе ў Гайнаўцы рэферэнтам адказным за вайсковыя справы (прапіска прызначаных да вайсковай службы). У час набору (веснавога ці асенняга ў армію) старшыня Рады адкамандзіроўваў мяне са спіскамі прызыўнікоў як прадстаўніка гміннага самаўраду. Меў я затым магчымасць хадайнічаць за адтэрміноўку брата ад вайсковай службы. А ў тадышнім часе прызыўнікі змагаліся за гэта. Братуха прывілеяй не пакарыстаўся. Сказаў проста: «Хоць бы ты мне зрабіў адсрочку, я добраахвотна падамся служыць у армію». Я не змагаўся за адтэрміноўку, затым брата прызвалі ў вайсковаю часць танкістаў у Аструду. Не прыпамінаю, дзе былі прызваны Віктаравы калегі. Аднак тэрмін для ўсіх быў вызначаны аднолькавы — у вайсковую часць ставіцца ў кастрычніку. Выпадала прызыўнікам развітальны вечар правесці на Тэклю. Тыдзень раней, перад «одпустам» святой Тэклі, мы арганізавалі Віктару развітальны вечар у сямейным крузе. Запрасіў ён хрышчоных бацькоў, блізкіх суродзічаў і вясковую моладзь са сваёй кампаніі. Быў і музыкант Вася Раманчук з гармонікам. Звонкім рэхам несліся праз адкрытыя вокны старэнькай хаткі песні — папулярная польская «Студзенка», савецкая «Ой красивы над Волгой закаты, ты меня провожала в солдаты», казацкая „Скакал козак через долину" ці «Колосилась в поле рожь густая». Калі песня з музыкай загасцявалі ў хаце, матуля наша, сядзеўшы збоку ў куточку, спаглядала на сына, выціраючы хусцінай слёзы сцякаючыя па зморшчаным твары. Успаміналі мінулае. Зруйнаваны дом, без падлогі, кучка спалоханых дзетак над запечкам з бабулькай Марыяй, а над ложкам у завешанай калысці яе сын, маленькі хлопчык Віця. Затым мама наша, безадпаможная з прастрэленым сэгном, сцякаючая кроўю, з беласнежным тварам малілася да Усявышняга за шчаслівае вяртанне бацькі дзетак...

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**

# Маладых не відаць

Размова з **Аляксандрам КЛІНАМ**, 1951 года нараджэння, пенсіянерам з Крывятыч у Арлянскай гміне, шматгадовым солтысам і старшынёй Гміннай рады, зараз радным Гміннай рады.



**❖ Ці Вы запамяталі сваіх дзядоў?**

— Жылі ўжо толькі бабця Мураўка з боку бацькі ды бабця Лена Кулік з боку маці. У бежанстве была сястра маёй бабці і засталася ў Ташкенце.

**❖ Школа? Адукацыя пасля падставоўкі?**

— Апошнія два гады падставоўкі вучыўся ўжо ў новым будынку. Гэта быў апошні рочнік, які яшчэ канчаў сямігодку.

Пасля закончыў двухгадовую Школу сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, але гэта была страта часу, бо пайшоў у Беласток у шкляное прафвучылішча. Пасля заканчэння працаваў у шклозаводзе па вуліцы Рыжскай, а пазней па вуліцы Возьняка. У міжчасе скончыў Хімічна-Керамічны тэхнікум у Валоміне. Вучыліся там па суботах і нядзелях.

**❖ Ці ў Беластоку выраблялі крышталі, якія ў людзях па хатах?**

— Пры Рыжскай выраблялі гаспадарчае шкло — шклянкі, кілішкі, спodкі. Там крышталяў не рабілі, толькі г.зв. звычайнае аздобнае шкло. Чым яно розніцца ад крышталяў? У крышталі дадаюць свінцовы вокіс, там узнікае іншая структура, крышталь цяжэйшы. Крышталі калісь прывозілі ад рускіх. Я ў сваёй альтане стаўляю хлопцам крышталёвыя пяцьдзясяткі.

**❖ На заводзе Вы былі дзеячам і таксама ў сваёй вёсцы...**

— Быў там старшынёй прафсаюзнай арганізацыі хімікаў, якая налічвала каля чатырохсот асоб. Раней быў грамадскім спартыўным дзеячам. Пры камуне гулялі ў валейбол, футбол, ездзілі па Польшчы на міжзаводскія спаборніцтвы.

А пасля вярнуўся ў Крывятычы на бацькоўскую гаспадарку. З 1985 па 2018 год быў солтысам і ўжо каля дваццаці гадоў гмінным радным.

**❖ Вы многа гадоў працавалі на грамадскіх прынцыпах. Ці лёгка дагадзіць сваім людзям?**

— То трэба мець характар. Я пераканаўся, што чым больш робіш, тым менш дагодзіш. Бо як нічога не робіш, то „ёсць солтыс, бо ёсць”. Хопіць паглядзець на вуліцу ў Крывятычах — і што: дагадзіў? Хто не едзе праз вёску, то гаворыць, што яшчэ так задбанай вуліцы не бачыў. [Вуліца ў Крывятычах, частка павятовай дарогі, была абноўлена ў 2018 годзе за сродкі арлянскага самаўрада датацыяй 1200 тысяч злотаў, кошт яе перабудовы склаў за паўтара мільёна злотаў — М. М., „Ніва” № 35 ад 2 верасня 2018 г.]. На аснове майго шматгадовага вопыту здаецца мне, што нельга быць сумленным; бо і так з'ядуць, і так з'ядуць. Зайздрасць: „Ужэ набраўся, ужэ хватыт”. Калі ладзіш у вёсцы нейкае мерапрыемства, то сваю касу выкладаеш, а табе гавораць, што „табе гміна дала”. А гміна ніколі не давала. Калі арганізаваў фэсты, то я па шэсць тысяч злотаў дакладаў са сваёй кішэні.

**❖ Але ў Вас добрыя суседзі, бо з Вашага панадворка ёсць фортачкі да суседзяў і не трэба да іх цераз вуліцу заходзіць.**

— А ў Спічках платы па два метры вышыні з дошак або бляхі, каб адзін другога не бачыў.

**❖ Ваш брат быў спартсменам. Як гэта было калісь са спортам у Вашай школе?**

— У Крывятычах, у школе ў Моры, вясковыя спартсмены былі выхаванцамі настаўніка Васі Ляшчынскага. Не мелі нават спартыўнай базы, а бегалі і гулялі ў гандбол, ручны мяч. І ўсе яны пайшлі ў Ружанасток да ўраджэнца Орлі Аляксандра Войны. Мой малодшы брат Яўген, 1960 года нараджэння, у Ружанастоку добра кідаў кап'ём. У Крывятычах яшчэ Валодзя Баравік добра гуляў у футбол, а пасля стаў дзесяціборцам. Міхал Мураўка бегаў.

Мой брат найбольшых поспехаў дабіўся ў юніёрскім узросце, быў на пятым месцы ў Еўропе, кідаў 76 метраў кап'ём. Быў у лёгкаатлетычнай зборнай Польшчы з каманды беластоцкага „Падляшша”. Быў найлепшы ў Польшчы, а пасля ў выніку трэніровачнай перанагрузкі села плячо. Пасля закончыў Акадэмію фізкультуры і працаваў у Ружанастоку.

**❖ А Ваша асабістае жыццё? Гаспадарка?**

— Ажаніўся ў Беластоку, жонка з Лукі, дзе зрабілі вадаём. Высялялі ў блок у Бандарах, іншыя бралі блокі ў Міхалове, Беластоку. Далі кампенсацыю, а пасля памяняліся грошы. Жонка памерла ва ўзросце 56 гадоў. Гаспадаркай заняўся, калі вярнуўся ў Крывятычы.

**❖ Вы таксама вудзільшчык. Ці бываеце на Семяноўцы? Вялікая там вада?**

— Маю там сваю лодку. На вадаёме ёсць хвалі, але не такія як на Ібізе, іспанскім востраве на Міжземным моры; быў я там дзесяць дзён на адпачынку з братавай і ейнай дачкой.

**❖ Як сёння выглядае вёска Крывятычы і як можа яна яшчэ памяняцца?**

— Аблагоў тут няма. Пенсіянеры сваю зямлю паaддавалі пераважна ў арэнду шматзямельнікам. Уладальнік зямлі плаціць падатак і забірае еўрасаюзныя даплаты, а зямлю абрабляе хто іншы. Вёска як вёска — вёска замірае, шторaз менш людзей, а маладых не відаць. Маладыя адыходзяць, а сюды хто прыйдзе?

Прыезджыя, якія купілі тут хаты, прыязджаюць раз у месяц або і не, як мой сусед з Гданьска. Гэта толькі адзін такі. Ёсць пустыя хаты, але ўжо няма таго буму, што раней. Калі быў яго разгар, то нейкі мужчына купіў за вёскай, пад лесам, два ўчасткі. І зараз расце там буш, хаткі правальваюцца; толькі грошы выдаў. Па-суседску ёсць участак на продаж: дом, стадола, збудаванні за 50 тысяч злотаў; гэта грашовая справа. Але пазбываюцца і таго, бо калі мае зарастаць, то нейкі гаспадар з'явіцца, прыедзе, выкасіць. А іншы купіць і будзе зарастаць.

Мы, вяскоўцы, падлічылі, што ў вёсцы ёсць каля соткі асоб, а каля сарака мае па 80-90 гадоў. То якая то будучыня? Яшчэ некалькі гадоў.

**❖ А можа прыедуць у Крывятычы пенсіянеры з горада?**

— А яны таксама маюць па 70-80 гадоў. А ўнукі ці праўнукі то напэўна не прыедуць.

**❖ А на якіх могілках хаваюць тых, што выехалі ў гарады?**

— У гарадах.

**❖ Але ў гарадах трэба плаціць за месца.**

— У суседнім прыходзе бацюшка таксама выдумлівае розныя аплаты, напрыклад за ўезд на могілкі фірмы, якая стаўляе намагільнік...

**❖ Значыць, якая будучыня для вёскі Крывятычы?**

— Пакуль што будынкі тых, што паўміралі, стаяць пустыя. А многія жывуць дома адзінока. Але то да часу.

Яшчэ пакуль хто жыве ў хаце, то прыязджаюць, бо ён ёсць. А як не будзе?.. Ёсць розныя сітуацыі, аднаму пасуе, іншаму не пасуе. Бо „калі бярэш бацькоўшчыну, то сплачвай мне”, а калі не, то пакідаюць і так астаецца. Папросту нецікавая сітуацыя.

Гэта не так, як пад Браньскам і там, дзе маюць гаспадаркі. Там нехта з маладых мусіць астацца на гаспадарцы. Бацькі яму кажуць: „Вучыся, але маеш пераняць гаспадарку”. Мусіць быць наследнік, такая спадчынная перадача.

А ў нас? Усе пасылаюць дзяцей: „Маеш ісці ў горад, чаго тут сядзець”. Быццам да тае бацькаўшчыны не вельмі прыхіляюцца. Толькі ёсць яшчэ выключэнні.

**❖ Дзякую за размову.**

❖Размаўляў і сфатаграфаваў
**Міхал МІНЦЭВІЧ**

## „Ніва” нам патрэбна і мы яе чытаем

Трынаццаць экземпляраў 39 нумара „Нівы” ад 29 верасня гэтага года прывозіў я ў чатыры вёскі: перш-наперш для сваіх аднасяльчан у Новае Ляўкова — дзевяць, два ў Плянту і па адным у Старое Ляўкова і Новіны.

„Ніву” №№ 40, 41, 42, 43 і 44 я прывозіў з Нараўкі і Гайнаўкі чытачам з Новага Ляўкова, Нараўкі і Плянты.

Дваццаць два экземпляры беларускага штотыднёвіка № 45 ад 10 лістапада гэтага года я быў у змозе давезці чытачам у Ахрымы, Новае Ляўкова (найбольш экземпляраў), Нараўку, Новіны, Падляўкова, Плянту, Старое Ляўкова, Сушчы Барок ды Гайнаўку. У краме ГС у Нараўцы я і Мікалай Варанецкі (ніўскі карэспандэнт з Альхоўкі) купілі чатыры экземпляры „Нівы”, столькі іх тут было. Спадар Мікалай — наш верны шматгадовы чытач. 9 лістапада г.г. я даведаўся, што двое новаляўкоўскіх чытачоў (яны людзі старэйшыя і самотныя) дзеці забралі на зіму да сябе ў горад і там яны будуць да вясны.

Варта дадаць, што „Ніву” ад нядаўна пачала чытаць, як сама мне і не толькі мне сказала, адна жыхарка Скупава. Яна шукае на яе старонках перш-наперш маіх допісаў. Паводле яе я не маю права на ніякую крытыку ў газеце, калі пішу пра Нараўчанскую гміну або пра яе вёску. Катэгарычна патрабуе ад мяне, як аўтара заметкі, адказу, чаму я напісаў пра лёс былых школ у Нараўчанскай гміне, а ў тым, між іншым, і ў вёсцы Скупава, дзе школьны будынак пападае ў руіну, і даў яшчэ фотаздымкі („Ніва” № 41 ад 13 кастрычніка 2019 года). Я радны і адказ маю даць публічна падчас найбліжэйшай сесіі Нараўчанскай Рады гміны (апошняя сесія была ў Нараўцы 31 кастрычніка г.г.). Дадам, ніхто іншы гэтага не патрабуе ад мяне.

А ўвогуле кожны з чытачоў знайшоў сабе нешта адпаведнае для прачытання. У кожнай „Ніве” цікавыя рэпартажы, артыкулы, фельетоны на актуальныя тэмы, фотаздымкі ды крыжаванкі.

Варта не забываць, што „Ніва” — ваш найлепшы прыяцель. Між іншым, дзякуючы ёй мы, беларусы, не забываем сваёй роднай мовы. На ёй складаем вершы і песні. Яна гуртуе вакол сябе дарослых і дзяцей. Лягчэй жыць, калі ёсць падтрымка знаёмых добразычлівых людзей кожны дзень.

Ёсць чытачы звязаны з „Нівай” ад пачатку яе існавання. Іх усё менш. Вельмі добра, што наша беларуская газета ёсць. Дзякуючы ёй мы больш ведаем пра сябе ды пра далёкіх і блізкіх нам людзей. Беларускі штотыднёвік трэба купляць і чытаць.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Чад — ціхі забойца

Чад, інакш кажучы вокіс вугляроду або ўгарны, газ, непрыкметнае рэчыва без паху і смаку з'яўляецца ціхім забойцам чалавека. Штогод па яго прычыне ў Польшчы памірае больш за сто чалавек, а каля дзвюх тысяч атручваецца. Сімптомы атручвання: задышка, боль галавы, галавакружэнне, нудота, ваніты, слабасць, прыспешанае ды нераўнамернае дыханне. Пацярпеўшага ад чаду неабходна вынесці ў бяспечнае месца з доступам свежага паветра. Расшпіліць вопратку, затым выклікаць медыцынскую дапамогу. Пад асаблівай пагрозай атручэння вокісам вугляроду з'яўляюцца асобы з абмежаваннямі, пражываючыя адзінока старэчы. Варта затым пахадайнічаць за абсталяваннем у памяшканні, дзе адпачываем (у спальні) дэтэктара ўгарнага газу.

Мяне гэтакім прыборам забяспечыў беластоцкі ўнучак Кшысё. У памяшканні ўсталяваў ён яшчэ супрацьпажарны дэтэктар. Кошт аднаго прыбора 20 зл. Выдатак невялікі. Затым магу зараз спаць спакойна.

**Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі


# Кніжка «Войтэк» пад ёлку!

Ці думаеце пра буслоў, якія адлятаюць у вырай?

Што чакае іх у дарозе? Хто дапамагае, а хто хоча іх знішчыць?

Адказы знойдзеце ў кніжцы для маладога чытача «Войтэк». Так завуць маладога бусла, які нарадзіўся ў падляшскай вёсцы. Наш бусел, пакуль выправіцца ў вырай, перажыве страшэнную траўму. Усё праз смецце, якое прывяжа яго нагой да старой буслянкі. Яму пашанцуе выкараскацца з пасткі і, дзякуючы добрым вятром, дагнаць чараду. Але падарожжа ў вырай — гэта не казка, гэта брутальнае змаганне за выжыванне. Па дарозе трэба адпачыць і паесці. Вось у Балгарыі вялікая звалка смецця. І хмара ўсякіх птушак, якіх прывабіла сталоўка. Наш герой, разам са сваёй чарадой, згаладнеў як воўк. Яны прызямляюцца ля звалкі. Тут столькі смачных, тоўстых кусочкаў! Праўда, ад гэтай «смачнай» яды марочыць галаву ды адымае сілу ў нагах. А наш буслік яшчэ запаскудзіў нечым тоўстым пёры і ў яго склееныя крылы. Ён не можа падарвацца ў паветра, адляцець. Яго бяду адразу прыкмячаюць дзікія сабакі, якія кідаюцца на Войтэка з зубамі. Але буслу пашанцуе ўцячы са смяртэльнай пасткі. У сваім няшчасці ён патрапіць у рукі дзяцей. Яны пачысцяць яму пёры і вернуць здольнасць палёту. І наш герой узляціць, знойдзе новую чараду. І тут, здавалася б — канец перашкодам! Ды не — яны з кожным адрэзкам лёту вырастаюць і палохаюць сваёй жорсткасцю. Праўда, разам з напружанасцю сюжэта, мацуецца спагада для героя. І ўзрастае цікавасць! Наш бусел змагаецца з прыроджаным лякам і адкрывае карысць ад сяброўства са страшнымі кракадзіламі. Ужо хоць бы для гэтага фрагменту, які пераносіць нас на раку Ніл, варта прачытаць кніжку... Пра Афрыку не будзем гаварыць, бо тут як з мяшка сыплюцца небяспекі і з'яўляюцца дзеці, якія ратуюць нашага героя ад смерці...






Урок у бельскай «тройцы»

Кніжка «Войтэк» асаблівая, сюжэт перадаецца з пазіцыі лёту птушкі... Другая плынь — гэта гісторыя хлопчыка Яцка, які моцна сумуе па хворым бацьку. Ён верыць што здароўе для таты прынясе бусел Войтэк, які ў выраі прыдбае для хворага божы хлябок.

Настрой кніжкі дапаўняюць малюнкі беларускай мастачкі Маргарыты Дмітрук з нашага Бельска. Таму на старонках бачым драўляныя хаткі, людзей і раслінасць. Ілюстрацыі асаблівыя, яны таксама паказваюць свет з перспектывы бусла ў палёце. Кніжку «Войтэк» можна назваць бельскім падарункам для дзяцей і дарослых. Аўтар кнігі Войцех Мікалушка, таксама родам з Бельска-Падляшскага.

Ну што ж... набліжаецца час калядных падарункаў. Таму варта замовіць гэтую цудоўную і павучальную кнігу ў Санта-Клаўса. Яна адменіць ваш погляд не толькі на значэнне ў нашым жыцці буслоў, але і натхніць да дбайнасці і аховы прыроды.

**(гак)**

* Wojciech Mikołuszko, „Wojtek", wyd. Agora 2019.

**Зузанна КЛІМОВІЧ**
Баршчэва, ПШ у Міхалове

## Чароўнае

Калі я рысую,
Ніхто не ведае як чую,
Малюю тое, што знаю,
Ці малюю тое, што хачу.
Гэта мае ўнутраныя чары,
Гэта маё сэрца цэлае.

**Мальвіна БАНАСЮК**
Міхалова

## Мае мары

Калі я ўяўляю сабе,
што будзе далей,
Мне ўяўляюцца каляровыя каты,
Мне ўяўляюцца хамякі ў самалётах,
Мне ўяўляюцца самаходы на ваду.
Але ці гэта не надта
аптымістычны свет?
Але гэта толькі мае мары...

## УВАГА КОНКУРС! № 50-19

**Ног няма, а ходзіць,
рота няма, а гаворыць
калі спаць, калі ўстаць
і калі работу пачынаць.**

**г........**

**Загадкі з роднай хаткі**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 29 снежня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 46:(Чаму певень заплюшчыўшы вочы спявае? — Каб паказаць курам, што на памяць ведае.) Узнагароды — аўтаручкі — выйгралі Магдалена Катэльчук, Якуб Амелянюк, Юлія Стэфановіч з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Віншуем!**

# Міфы старажытных беларусаў

Ці падумалі вы, чаму многія мясцовасці маюць «каляровыя» прыметнікі. На Беласточчыне сустрэнем такія вёскі як Белавежа, Бела, Чорная-Вялікая, Чырвоны Бор...

Колер у міфалогіі абазначае характар і якасці прадметаў, людзей, з'яў.

Сёння засяродзімся на значэнні белага колеру. Наш адрэзак адрэдагаваны паводле кніжкі Алены Коршак «Беларуская міфалогія для дзяцей».

## Белы

Белы колер — адзін з найбольш пашыраных колераў у традыцыйнай культуры беларусаў. Ён шырока ўжываўся ў народных строях і ткацтве, у аздабленні святых ікон і покуці (святога кута) у хаце. Белы колер — сімвал чысціні і святасці. Гэтаму колеру падпарадкаваны Светлы тыдзень пасля Вялікадня. Ды чалавека, які памрэ ў гэты перыяд, лічаць заслужаным і шчаслівым. Пра такога на Падляшшы гавораць так: **Яго** пахавалі пад белымі харугвамі!

У многіх рытуалах белы колер супрацьстаўляўся чырвонаму, які сімвалізаваў нараджэнне, жыццёвы пачатак і змену статусу чалавека. Белы колер звязаны таксама са смуткам, вечнасцю і бязмежнасцю. Гэта таксама чысціня сэрца і дабрыня. Менавіта ад гэтых рыс характару беларусы выводзяць назоў сваёй краіны. Многія падарожнікі і чужаземцы, што сутыкнуліся з нашымі суродзічамі, якраз прыкмецілі светлыя рысы жыхароў Беларусі.

Сімвалам краіны з'яўляецца старажытная вежа — Белая вежа ў Камянцы. І хоць яна чырвонага колеру, дык гэта сімвал недаступнасці і абароны.

**(гак)**



# Маці і дачка

Калі Аліўка Жэпко першы раз загасціла на старонках «Зоркі», яна падалася знаёмай, ад заўсёды. Мая рэдакцыйная сяброўка Уля Шубзда пісала пра радасць, з якой дзеткі з Нарвы дэкламуюць беларускія вершы. Разам друкаваўся жыццярадасны здымак Аліўкі. Менавіта, найбольш уразіла ўсмешка дзяўчынкі. Яна была знаёмай. І калі ўрэшце я пабачыла Аліўку разам з мамай, — зразумела ўсё. Мама Аліўкі — Аня (з дому Грынявіцкая), з падобным энтузіязмам выступала на беларускіх імпрэзах. Спадарыню Аню памятаю таксама з Сустрэч «Зоркі». Яе тэатральныя і мастацкія ўвасабленні ў сустрачанскім тэатры, разам з сяброўкамі Сільвіяй Ракіцкай, Агнешкай Зубрыцкай, Эвелінай Кучэўскай, Івонай Асташэўскай, вылучаліся жыццярадаснай энергіяй.

З маці і дачкой мы сустрэліся пасля гадоў на беларускім свяце ў Нарве. Аліўка, пад захапленне публікі і бацькоў, сыграла многія ролі на мерапрыемстве «Захаваць у памяці». Мінула столькі часу і нічога не памянялася, — падумала я.

**Фота: Ганны Кандрацюк**

## *Мастак Цвік*

*Маленькі цвік*
*з вялікай галоўкай*
*любіў дружыць*
*з высокім алоўкам.*
*Сяброўкай была яму*
*сціральная гумка,*
*усе разам займаліся*
*мастацкім рысункам.*
*Марылася яму слава,*
*і каб яго карціны*
*давялі цвіка*
*да мастацкай вяршыні.*
*Далей бачыў вандроўкі*
*па ўсім свеце,*
*прызнанні ад цвікоў*
*на сваёй планеце.*
*Лёс Цвіку-мастаку*
*аказаўся ласкавым,*
*забілі цвіка*
*ў карцінную раму.*
*І тут маленькі цвік*
*раптоўна проста знік.*
*І з гэтай пары*
*ўжо не баіцца*
*са слупам мірыцца*
*на халодным двары.*

**Стары Дзік**

# Польска-беларуская крыжаванка № 50-19

Запоўніце клеткі беларускімі славамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 46-2019:**

Тралейбус, пяро, вой, тран, запыт, завушніцы, маляванка, жалеза, рэ, улан, журы, агаворка. Татуаж, явар, жур, трон, малы, рой, зала, калена, лён, вяз, увага, ЗША, ванна, пік, рыцар, гэты, эра.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі: **Аляксандра Макаль, Алеся Буткевіч, Якуб Пілецкі** з НШ свсв. КіМ у Беластоку, **Марцін Галёнка** з Нарвы, **Якуб Аўярчук, Габрыся Красько** з Арэшкава, **Нікіта Кумейка, Нікола Беліньская, Матэвуш Крот, Дар'я Несцярук** з Орлі. Віншуем!



Частка 8

# Генетычны алфавіт



Джордж задумаўся, пачаў нешта прыкідваць у галаве, загінаць пальцы. Праз хвіліну зноў перайшоў да дыскусіі:

— Яго задача, як я разумею, не даць заканай пары заняцца сексам, пакуль мы не завярбуем лекара-алкаголіка?

— Дакладна так. На дадзеным этапе гэта і ёсць кароткатэрміновая задача. А галоўная задача — доўгатэрміновая, каб там нарадзіўся наш разведчык, які ў будучым пазбавіць народы СССР ад прыгнёту камуністаў. Так што мэты святыя!

— А хто будзе вербаваць лекара?

— Хто-хто? Малютка Чарлі, вядома ж.

— Не зашмат для яго?

— Ясна, што зашмат. А ты паглядзі яшчэ раз на той мізэрны ганебны бюджэт на гэтую аперацыю, які вы мне выдзелілі!

— Джэк, мы больш не можам. Ты зразумей, гэта ж грошы падаткаплацельшчыкаў. Грошы амерыканцаў. І амерыканцы могуць спытаць у нас, куды яны пайшлі. Бяда амерыканцаў у тым, што яны вельмі цікаўныя. І маюць на гэта права па заканадаўстве. Што мы ім скажам?

— Скажаце, што грошы пайшлі на вялікую і чыстую справу: не даць хлопцу заламаць дзеўку да шлюбу. Амерыканцы вас зразумеюць. Асабліва евангелісты, мармоны і амішы. Я ўжо не кажу пра католікаў.

— Зразумець, то зразумеюць. Але больш грошай усё адно не дадуць.

— То чаму пытаеш мяне, хто будзе вербаваць лекара? Дзе я вазьму грошы на другога агента? Ды і не звыкся я хадзіць на аднаго ворага з двума патронамі. Не па-каўбойску гэта. Ты ж, напэўна, ведаеш, што мой бацька быў каўбоем?

Кіраўнік звышсакрэтнага аддзела сказаў апошнюю фразу з асаблівым смакам і гонарам, наўмысна зрабіўшы націск на слове каўбой. Ён добра ведаў, што продкі Джорджа былі офіснымі клеркамі. У яго разуменні страляць з бядра і скручваць ногі бычкам гэта больш амерыканскі занятак, чым перакладваць паперкі і дагаджаць начальству. Таму не выкарыстаць яшчэ адзін момант, каб прынізіць суразмоўцу, ён быў не ў сілах. Той гэта зразумеў і адразу пагадзіўся з прапановамі разведчыка:

— Ну што ж, Малютка Чарлі дык Малютка Чарлі. Ты камандуеш, табе і адказваць. Бо дамаўляцца ты не вельмі ахвочы.

— А ты думаеш, лёгка дамовіцца з дэбіламі?

— Ну, калі ты палітычнае кіраўніцтва краіны лічыш дэбіламі, а толькі сябе геніем, то, можа, па даўнім сяброўстве падкажаш мне, як даведацца ўсё пра сваю жонку?

— Лёгка. Скажы свайму лепшаму сябру, што яго жонка яму здраджвае. І я табе гарантую, што праз пяць хвілін ты будзеш ведаць пра сваю ўсё.

— Ну што ж, праверым. І яшчэ! Сам прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі Рычард Ніксан вельмі зацікаўлены ў паспяховым завяршэнні тваёй аперацыі. Я толькі што ад яго. Ну, і я асабіста жадаю табе поспехаў. І ўвесь Дзярждэпартамент таксама.

Супрацоўнік Дзяржаўнага дэпартамента Злучаных Штатаў Амерыкі падняўся і падаў разведчыку руку. Усміхнуўся. Зубы адлюстраваліся ў туфлях, туфлі адлюстраваліся ў зубах, у якіх адлюстраваліся туфлі. Поціск рукі быў моцным і кароткім, як стрэл з кольта трыццаць другога калібру ў галаву. Пасля такога поціску спартовага тыпу чалавек спрытна развярнуўся і, як напалоханая пума, выскачыў з офіса.

Джэк адклаў цыгару і зноў узяў у руку шклянку. Вяла кінуў туды некалькі кавалкаў лёду і гэтак жа абыякава плюхнуў на іх віскі „Джэк Дэніэлс".

— Яны выдзелілі мне на гэтую аперацыю столькі ж сродкаў, колькі выдзяляе Галівуд на адну серыю шматсерыйнай да бясконцасці мыльнай оперы пра шпіёнаў. Ну, нічога, бесхрыбетныя закладнікі настрою прымітыўнага электарату. Ведалі б яны маю сапраўдную задумку, то і гэтага не далі б. А так хоць нешта маю. Ёсць з чаго пачаць сваю вялікую місію. Савецкі Саюз, яны кажуць, не разваліцца?! Нікчэмныя працінцелі портак у дзяржаўных кабінетах! У іх галовах толькі тараканы і скураныя трусы. Без нас яны даўно прайгралі б камуністам! Трэба збіраць сваіх верных разведчыкаў. І як мага хутчэй збіраць! Час не цярпіць. У Беларусі хутка настане раніца...

## 5. У ваколіцах Мінска

Ранішняе сонейка смела вынырнула з-за Касабуцкага лесу (толькі старыя ведалі, чаму гэты лес так называўся, а вось маладыя ў іх гэтага не пыталі, не цікавіліся, таму і не ведалі) і асвяціла зялёны луг з расой сярэдняй зярністасці. Так, як учора, і пазаўчора, і на трэці дзень таму таксама. Як бы нічога новага. Але ніколі не стомішся назіраць за гэтым велічным відовішчам узыходу нябеснай ласкі над зямным даляглядам. Кожны раз глядзіш як упершыню, і ў гэты момант так ясна і зразумела адчуваеш ад самага сэрца ўсю нікчэмнасць зямных інтрыг і мудрагелістых планаў, якія вышэйшыя істоты планеты Зямля плятуць супраць сабе падобных...

Сонца зноў узышло! Ну, чаму б не быць шчаслівым ужо?! Няўжо гэтага мала, трасцу вам у бок?! Прачнуцца ды кахаць...

Пяшчотнае і далікатнае ранішняе свята паляцела праз апрацаванае поле, маладую лясную пасадку, дагледжаныя агароды і яблыневы сад проста ў вёску, дзе, як дурныя, загарлапанілі рознакаляровыя пеўні, якія, акрамя інтэнсіўнага таптання курэй, падпрацоўвалі тут будзільнікамі, замыкалі плямістыя каровы, забрахалі сабакі, закудахталі рабыя куры, і белыя куры закудахталі, і адна чорная курыца таксама падтрымала птушыную супольнасць кудахтаннем, зарохкалі свінні, забразгаталі вёдры... І рытмічны звонкі стук малатка па загартаваным метале. Дзінь-дзінь-дзінь... Недзе на ўскрайку, у другой ці трэцяй ад дарогі хаце, нехта пачаў кляпаць касу.

Дзьмуў лёгкі заходні ветрык. У невялічкай беларускай вёсцы, назву якой засакрэцілі некалькі разведак, і таму яе нельга згадваць проста так, толькі таму што згадаць хочацца, пачынаўся звычайны сялянскі дзень. Ну, можа, крыху цяплейшы, чым звычайны. Зрэшты, гэта не так істотна.

— Тэмпература паветра чатырнаццаць цэлых і пяць дзясятых градуса па Цэльсію, — манатонна прахрыпела радыё праз адчыненае акно звычайнай вясковай хаты без нумара і назвы вуліцы, якая тапілася ў зеляніне дрэў, рознакаляровасці кветак і паху даўно адцвіўшага бэзу...

Вось так з тым бэзам... Як пацвярджэнне таго, што нічога не праходзіць без следу. Бэз адцвіў, а пах застаўся... І будзе аж да наступнага цвіцення той пах. Хай сабе не ў паветры, дык у памяці...

З радыямі ў іншых хатах сітуацыя выглядала аналагічна, як і ў той звычайнай вясковай, без нумара і назвы вуліцы, якая тапілася ў зеляніне дрэў, рознакаляровасці кветак і паху даўно адцвіўшага бэзу... Зрэшты, і з зелянінай, і з кветкамі, і з усім іншым усё было ля другіх хат прыкладна так, як каля той. Ну, а радыё, ці рады, тую версію пра тэмпературу паветра пацвердзілі праз адчыненыя вокны слова ў слова. Як згаварыліся ўсё адно.

Невялічкі сонны пастушок у гумовых ботах выганяў у поле павольных кароў. Каровы то і без яго ведалі, куды ім ісці. Летні прыгожы дзянёк, лужок, зялёная траўка, на ёй раса сярэдняй зярністасці... Ну няўжо каровы такія тупыя, што пайшлі б у іншае месца? У балота ці ў лес? Па якую трасцу?! Ваўкоў шукаць? Няма дурных! Але пастушок быў патрэбны ўсё адно. Так павялося ў людзей той засакрэчанай вёскі, што кожная сям'я, хоць здохні і не ўстань, а павінна па чарзе пасвіць кароў. Як і ва ўсіх астатніх беларускіх вёсках, у тым ліку і не зусім засакрэчаных, і не засакрэчаных зусім. Калі такія ёсць, вядома ж.

І калі б нехта не выставіў у свой дзень пастуха, о то ж было б сваркі! Як у дурных на падворку. Нават каровы рагаталі б, не толькі куры. Адзін кот не рагатаў бы. Той ніколі не выдае сваіх эмоцый. Таму сонны пастушок гадоў сямі-дзевяці, паціраючы вочы, паслухмяна сунуўся ўслед за статкам. Каровы то ведаюць, куды ісці. Ну, і яму туды. Як жа ён без іх? Цягнуўся ззаду статка, абмінаючы каровіны свежыя бліны, і перыядычна страляў пугай. Ён жа галоўны.

— Гані іх на пашу ля Касабуцкага лесу, — крычала яму ўслед нейкая бабулька, выганяючы з падворка адарванай ад бэзу галузай сваю непаслухмяную рагатую жывёліну.

Нібыта каровы і без яе парады, і без пастушковай пугі не ведалі, дзе той Касабуцкі лес. От жа гэтыя бабулі! Над тым жа лесам толькі ж што сонца ўзышло! Ну хто не ведае, дзе Касабуцкі лес?!

— Эй, падшпарак, прачніся, — так пасваіцку цёпла звярталася да пастушка іншая кабета. — Глядзі, не прыгані кароў зарана! А то ведаю я вас, ашавуркаў.

І пастушок далей смела крочыў за статкам, цягнучы за сабой тонкімі дзіцячымі ножкамі гумовыя боты на некалькі памераў большыя ад патрэбнага. Хіба маміны. Збоку магло падацца, што ногі хлопчыка ідуць асобна ад тых ботаў. Ногі самі па сабе, боты самі па сабе. Але пры больш дэталёвым разглядзе станавілася відавочным, што і ногі, і боты крочаць у адным кірунку, а значыць між імі ёсць непасрэдная лагічная сувязь — боты на нагах. Хоць нагам гэта наўрад ці патрэбна. Тым больш ботам.

Руды кот пасля ўдалага начнога палявання з даху хлява ляніва паглядаў на ўсё, што рабілася знізу, і рыхтаваўся заснуць у цяпле і ласцы промняў ранішняга сонейка. Але раптам яго позірк нечакана спыніўся на чымсьці цікавым. От, усё ім трэба пабачыць, гэтым катам! Усё ім цікава! Ён няспешна падняўся, заняў больш зручную пазіцыю і пачаў назіраць, як арол з вышыні птушынага палёту, за парачкай людзей, якія, хаваючыся ад іншых сабе падобных, сядзелі ў абдымку на беразе невялічкай рачулкі.

— Лена, каб ты мяне сапраўды кахала, то не адмаўляла б мне так доўга, — настолькі пакрыўджана гаварыў хлопец на беразе той невялічкай рачулкі, што нават ранішнія лугавыя кветачкі вялі на вачах. — Як быццам бы я прашу чагось незвычайнага. Я прашу тое, што кожная дзяўчына, калі кахае хлопца, то мусіць даць яму. Ну што табе шкада ці што?! Што з табой станецца? Яшчэ аніводная баба ад гэтага не памерла! Дала б мне хоць раз, і ўжо праехалі б і перасталі б пра гэта.

— Табе лёгка гаварыць, „дала б", — апусціла вочы ў траву дзяўчына. — Табе гэта раз плюнуць. А мне адважыцца трэба.

— Глядзі, ужо і раніца, — дацiскаў яе хлопец, паспадзяваўшыся, што яна ўсё ж, можа, адважыцца і прама цяпер. — Сонца ўжо ўстала з мяне пасміяцца. Ды нават куры ўжо з мяне смяюцца. Колькі сустракаемся, а ніякіх зрухаў. Цэлую ноч ты толькі і ведала, што адмаўляць. Здзекавалася з мяне аж да рана. У цябе што, прачнуліся затоеныя да гэтага часу схільнасці мучаць тых, хто цябе кахае?

Голас яго сапраўды быў напоўнены шчырай крыўдай, як у надзьмутага і заплаканага дзіцяці, якому абяцалі даць цукерку, а зараз адмаўляюць. Розніца была толькі ў тым, што ў дадзеным выпадку ніхто і не абяцаў. Нават цукерак. Хоць хлопец яўна не іх вымольваў. Каму яны патрэбныя, тыя цукеркі, у такой сітуацыі? Толькі не яму. Адназначна. Ну кожны, хто пабачыў бы яго дзяўчыну, пра цукеркі і не ўспомніў бы.

Гэтая была не з тых, што як пахваліш яе сукенку, то ўжо больш нічога хваліць і не трэба. І не з тых, чыя папулярнасць далей межаў іх калгаса не распаўсюджвалася. З першага погляду было бачна, што гэтая дзеўка з эліты самых вартых прадстаўніц жаночай пароды. У такую калі закахаешся, то бяда. Доўга тое пачуццё не адпусціць. З'есць усю душу поедам, падзярэ сэрца ў лахманы, атруціць кроў да апошняй кроплі, а не адпусціць.

— Ну, Васіль, — прытулілася да яго дзяўчына, і лугавыя кветачкі зноў пачалі распускацца ў промнях ранішняга сонца і пяшчоце тэмбру яе наіўнага і мілагучнага голасу. — Ты ж ведаеш, што я без цябе не магу жыць. Ну, каб жа я цябе не кахала, ці пагадзілася б выходзіць за цябе замуж? Ну, сам падумай. Гэта ж ужо хутка! Вось-вось! Ты сам казаў, што да зімы сваты завітаюць. Ну, няўжо так цяжка пацярпець?

І ў яе голасе шчырасці было больш за трэцюю частку. Для жанчыны гэта аж занадта. І для маладой дзяўчыны таксама. Няма розніцы — маладой ці не. Бо гэта на генетычным узроўні вызначаецца, а не на ўзроставым. А жанчыны ўзросту не маюць, бо не хочуць мець.

— Калі кахаць так, як я, то вельмі цяжка, — стаяў на сваім пакрыўджаны. — Гэта невыносна! Не чэсна! І гэта няправільна з твайго боку. Ну, чаго ты баішся? Мы ж ужо амаль муж і жонка...

— У тым і справа, што амаль. Вось распішамся, і рабі што хочаш. Цэлае жыццё рабі што хочаш! Хоць не злазь з мяне, як вершнік з кабылы. Хоць задушы! Ну, што табе прыспічыла, як галоднаму кату свежай смятаны.

(працяг будзе)

Віктар САЗОНАЎ

# Новыя дрэвы на Нараўчаншчыне

У 2017 годзе была выразана палова маляўнічай алеі Нараўка — Альхоўка, па якой праходзіць веласіпедны шлях *Green Velo* (усе дрэвы былі спілаваны, нават здаровыя). Знікненне яшчэ адной алеі ў рэгіёне стала шокам, які падштурхнуў Згуртаванне дзеля дыялогу «Трапінка» да дзеяння. Сябры згуртавання арганізавалі тры абучэнні на тэму значэння і догляду за прыдарожнымі дрэвамі, два з іх аб'яднаны былі з інвентарызацыяй пакінутай часткі алеі, на якой дрэвы таксама былі пералічаныя гэтым летам — верагодна, плануецца новая высечка (высновы з інвентару, таксама прадстаўленыя ў адпаведныя органы, даступныя для праверкі на вэб-сайце: http://www.tropinka.org/szkolenie-inwentaryzacja-alei/ і http://www.tropinka.org/szanujmy-aleje-inwentaryzacja-alei.../).

Адразу пасля высечкі трапінкаўцы вырашылі прыняць меры па рэканструкцыі высечанай алеі, паколькі, як адна з нямногіх дарог з прыдарожнымі дрэвамі ў Нараўчанскай гміне, яна проста вартая абароны, а яе пашкоджаны ўчастак трэба аднавіць. У рамках грамадскай кампаніі трапінкаўцы хацелі пасадзіць новыя дрэвы, памеры якіх рэкамендуюць спецыялісты: у акружнасці 12-15 см на вышыні 1 метра (больш падрабязна пра гэтую кампанію, таксама словы падтрымкі, можна знайсці на: http://www.tropinka.org/rekonstrukcja-alei-narewka-olchowk ... /). Гэта былі саджанцы, якія яны ўжо замовілі, калі атрымалі інфармацыю, што пагадненне састарэла, таму што «Упраўленне павятовых дарог пасадзіць дрэвы самастойна на месцы ўсёй зрэзанай алеі ўздоўж дарогі Нараўка — Альхоўка. Паводле інфармацыі дырэктара УПД, саджанцы для пасадкі будуць атрыманы з мясцовых надлясніцтваў».

У канцы кастрычніка Упраўленне павятовых дарог у Гайнаўцы фактычна пасадзіла дрэвы на частцы выразанай алеі. Першапачатковая радасць трапінкаўцаў хутка рассеялася. Яны разам з дэндролагам Якубам Далятоўскім убачылі нядаўна пасаджаныя дрэўцы. Ніжэй прыводзяцца высновы гэтых інспекцый, якія яны таксама накіравалі ва УПД, старосту ў Гайнаўцы і ў Нараўчанскую гміну. Трапінкаўцы станоўча ацанілі, што была пасаджана ліпа драбналістая (Tilia cordata), бо толькі гэтая ліпа родам з Падляшша. На жаль, ацэнка выбару саджанцаў і спосабу іх пасадкі была неспрыяльнай. Былі высаджаны неафармленыя дрэвы (ліпа — гэта «школьны» прыклад віду, які ў гадавальніку трэба гадаваць досыць карпатліва. Трэба яе «вывесці» так, каб у будучыні сфармаваць добра ўкладзеную крону і каб не падвяргалася яна дэфармацыі і паломцы ў маладосці). Некаторыя дрэвы часта даволі высокія, да 6-7 м, але ёсць і 3-4-метровыя — гэта, відавочна, няякасная сумесь. Большасць дрэўцаў выцягнутая, часам аднаназначна выгнутыя ў адзін бок, што вынікае з-за адсутнасці арыенціра «на праваднік». Дрэвы былі пасаджаны супраць усім правілам: без адпаведна шырокай чашы (пры вышыні дрэўца 6-7 м, дыяметр выкопкі часам усяго ў 40 см), убіты побач з імі — мабыць, ужо пасля пасадкі — адзін неакараваны (хутка папсуецца) слупок, часта занадта тоўсты (дыяметрам да 12 см, пры ствале ліпы ў 1 см), яловы, да якога кожная ліпка прымацавана ў адным месцы, вельмі часта занізка. Пры такой нізкай падвязцы, напрыклад, на 1 м над зямлёй, вольнымі застаецца некалькі метраў, і тая частка кроны моцна пагойдваецца ветрам, таму цяжар кроны, асабліва вясной, пасля разгортвання лісця, будзе велізарны. Акрамя таго, для мацавання была выкарыстана найгоршая, недапушчальная звязка — тонкі сельскагаспадарчы шнурок. Пры дрэўцах, выкапаных з зямлі, з «голымі» каранямі, перад пасадкай абавязкова трэба ўбіць 3 акараваныя слупкі з імпрэгніраванай драўніны, выразна далей ад ствала пасаджанага дрэўца і абавязкова прывязаць яго з трох бакоў прафесійнымі шырокімі стужкамі. Частка галін крон саджанцаў ужо зламана, а ў многіх выпадках дрэўцы шырока рухаюцца за тоўстым калком, заблізка ўбітым да яго, і труцца аб яго край.

Застаецца толькі спадзявацца, што, падобна як «Трапінка» ва ўзятым на сябе пагадненні, Управа павятовых дарог забяспечыць догляд за пасаджанымі дрэўцамі, іх паліванне і папаўненне саджанцаў, якія не прымуцца, на працягу наступных двух гадоў...

**(лук)**









# Ідзе наш Кастусь, змагар наш народны...

Усе кажуць — векапомная падзея. Але калі судзіць па настрою ў дарозе, ніхто з нас не прадбачыў і не спадзяваўся такога нацыянальнага ўздыму ў Вільні. Усю дарогу скрыпелі адно нараканні. То на холад і цемру, то на нацыянальны маразм і беларускае прыстасаванства, то на татальную асіміляцыю і абыякавасць аднапляменцаў. Ну, адна немач і безнадзейнасць...

Магчыма, так спрацавала недаспаная ноч і рэзкая перамена надвор'я. Якраз ад поўначы павеяла ледавітым ветрам, панізіўся ціск. Усім здавалася, што ў Вільні рэй возьмуць палякі. А мы проста выстаім, ганарова і прыгожа, як наказвае сумленне.

— А як звязуць палавіну Салечніцкага раёна, — гучала першая зандзіроўка, — дык палякі ўсіх шапкамі накрыюць!

— І яшчэ столькі прыб'е з самой Вільні, — меркаваў другі голас, — хоць бы паглядзець на прэзідэнта Дуду і яго жонку.

На суродзічаў з Беларусі не было вялікіх спадзяванняў. Літоўскі ўрад абмежаваўся да выдачы тысячы бясплатных віз і лічыў сябе апраўданым. Кожны хто не паспеў аформіць бясплатную візу і хацеў быць у Вільні, сам мусіў выкласці дзенюжкі. А як з той ахвотай ехаць кудысьці на свой кошт у беларусаў, мы тое-сёе ведалі. З такога Беластока, ледзь-ледзь назбіраць чатырнаццаць асоб, якраз каб заплаціць за маршрутку...



І хто гэта такі разумны прыдумаў, каб арганізаваць пахавіны ў пятніцу, у 8.30 гадзін раніцы? Ці не спецыяльна, каб абмежаваць колькасць тых палякаў, — фантазіравалі мы. Сумненні і злосць падбіў яшчэ корак, які прывітаў у пачатку Вільні. Спецыяльна, каб не правароніць дастойных момантаў, мы выехалі з Беластока ў тры гадзіны ночы. І тут, амаль на месцы, загразлі ў маруднай кропцы, перакідаліся колкімі каментарыямі і рагаталі ад злосці.

Мы, як землякі Каліноўскага, у адрозненне ад сяброў-гарадзенцаў, не лічылі сябе яго дэпутатамі і не прыпісвалі сабе векапомнай місіі. Нават сцягоў не прыдбалі. Таму пасля прыезду кожны пайшоў у свой бок, шукаць сваіх сяброў. Праўда, перад кафедрай св. Казіміра, у дзесяць раніцы, не было яшчэ натоўпаў, ды не было шансаў адбіцца ад групы. Але на ўсякі выпадак, прафесар Алег Латышонак, самы рослы ў беларускім руху ў Польшчы, кінуў:

— Калі хто згубіцца, хай выглядае мяне ў натоўпе. Буду вашым арыенцірам!

Дамовіліся!

Здавалася, сярод групы ў тысячу беларусаў, наш арыенцір будзе найлепшым арыенцірам. Так было ў нас заўсёды. А пра палякаў ад Салечніцкага раёна адразу забыліся. Іх проста не было відаць у Вільні...

(працяг будзе)

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

# Гміны ў кластары

Сацыяльныя і эканамічныя выгады гмін, звязаных з энергетычным кластарам Міхалова разважаваліся на канферэнцыі ў зале абрад Гарадской управы ў Міхалове. Ці гміны Міхалова, Заблудаў, Гарадок і Тыкоцін маюць магчымасць стаць самадастатковымі муніцыпалітэтамі? Падагульненне двухгадовай дзейнасці энергетычнага кластара Міхалова, здагадкі і планы на будучыню былі асноўнай яе тэмай.

— У апошнія месяцы я ўдзельнічаў у розных сустрэчах, прадстаўляючы функцыяванне энергетычнага кластара Міхалова і паўсюль гэты кластар успрымаўся як узорны. Наш кластар можа стаць пасло́м наватарскага Падляшша, — сказаў Данель Рачкевіч, каардынатар кластара, падводзячы гісторыю яго дзейнасці.

Кластар быў створаны 12 чэрвеня 2017 года „Зялёнай энергіяй Міхалова" і IEN Energy. Завязаўся вакол сельскагаспадарчай біягазавай установкі (Zielona Energia Michałowo) і фотавальтаічнай (сонечнай) фермы побач з ёй. Да групоўкі паступова далучыліся гміны Міхалова, Заблудаў, Гарадок і Тыкоцін, а таксама ГЦК Міхалова і Дом састарэлых „Явар".

— Пасля стварэння біягазавай установкі




гэтая камерцыйная дзейнасць не спынялася, і мясцовыя ўлады і прадпрымальнікі пашыралі дзейнасць кластара. Самаўрадаўцы з іншых гмін і паветаў прыязджалі, каб паглядзець, як працуе кластар у Міхалове, — дадаў Данель Рачкевіч. — На практыцы кластар — гэта вытворчасць энергіі і яе спажыванне на мясцовым рынку. Наш кластар валодае вялікім патэнцыялам, і я магу вас запэўніць, што самазабеспячэнне муніцыпальнай энергетыкі, атрыманне і спажыванне энергіі магчыма.

Сярод энергетычных праектаў гміна Міхалова можа пахваліцца мадэрнізацыяй вулічнага асвятлення, пабудовай ацяпляльнай сеткі і усталёўкай сістэмы вымярэння забруджвання. Гміна плануе пашырыць цеплавую сетку і падключыць да яе большасць грамадскіх будынкаў.
У цяперашні час больш танную цеплавую энергію выкарыстоўваюць крыты басейн і пачатковая школа, а таксама два прадпрымальнікі. Планы прадугледжваюць будаўніцтва другой сельскагаспадарчай біягазавай установкі аналагічнай магутнасцю 600 кВт. Побач з ёй — інвестыцыйныя зоны для інвестараў, зацікаўленых у атрыманні больш таннай цеплавой энергіі.

— Мы маем намер пабудаваць дзіцячы садок па пасіўных тэхналогіях і Мясцовы цэнтр актыўнасці (МЦА), а таксама спартыўна-аздараўленчую базу па пасіўных тэхналогіях. МЦА будзе пабудаваны ў будынку былой ратушы. Мы таксама маем намер стварыць цэнтр энергетычных тэхналогій у МЦА, дзе можна бліжэй пазнаёміцца з усім працэсам вытворчасці энергіі, разгледзець яго больш падрабязна. Такі цэнтр мог бы атрымаць выдатныя адукацыйныя магчымасці, напрыклад, для вучняў, — падсумаваў планы мясцовага самакіравання на бліжэйшыя гады бургамістр Міхалова Марк Назарка.

Іншыя гміны і члены кластараў таксама рэалізуюць энергетычныя праекты.

— У кожнай гміны ёсць свае каштоўнасці, багацце і прыродныя рэсурсы, і мы хочам захаваць іх, ажыццяўляючы дзейнасць па аднаўляльных крыніцах энергіі (АКЭ), — дадаў войт Гарадоцкай гміны Веслаў Кулеша.

Гарадок плануе ўсталяваць кацельню на цвёрдым паліве, якая забяспечыць ацяпленнем і гарачай вадой будынкі школы і дзіцячага садка, будаўніцтва новай ачышчальнай станцыі і новую ачышчальню вады, фотавальтаічных панэляў і лакальных кацельняў, а таксама змяненне вулічнага асвятлення на святлодыёднае і мадэрнізацыю будынка Гміннай управы.

Заблудаўская гміна ўжо пасля частковай змены вулічнага асвятлення, плануе ўсталяваць сонечныя батарэі і сонечныя фермы, а таксама зрабіць тэрмамадэрнізацыю гмінных будынкаў.

— Мы плануем пабудаваць сонечную ферму. У нас ужо ёсць месца, дзе яе можна было б пабудаваць. Мы таксама думаем пра біягазавую ўстаноўку, — прызнаецца бургамістр Заблудава Адам Томанэк.

Тыкоцін прайшоў энергетычны аўдыт, які паказвае, што замена вулічных ліхтароў прынясе ашчаднасці ў 60 адсоткаў. Ён таксама мае намер пабудаваць сонечныя батарэі на будынках і выкарыстоўваць экалагічныя сродкі транспарту.

Канферэнцыю закончыла экскурсія па біягазавай установцы і сядзібах атрымальнікаў таннай цеплавой энергіі ў Міхалове.

**(лук)**



„Дай Бог, каб ваша хата не знала ні ўрача, ні адваката", — кажуць у народзе. На жаль, такое жаданне рэдка спраўджваецца, бо і хварэюць людзі, і канфліктуюць паміж сабой даволі часта. Таму без дапамогі ці першага, ці другога ў жыцці амаль ніяк не абысціся. І калі так складваецца сітуацыя, што трэба звяртацца да каго-небудзь з іх, то стараюцца людзі, каб быў гэты ўрач ці адвакат разумным і ведаючым сваю справу.

Магчыма, адным з такіх ёсць мінскі адвакат Аляксандр Данілевіч. Пацвердзіць альбо абвергнуць прафесіяналізм гэтага юрыста аўтару дадзеных радкоў не давялося, бо звяртацца да яго не прыходзілася. У той жа час, калі зазірнуць на сайт Данілевіча, то з прыемнасцю можна адзначыць, што не цураецца дадзены адвакат беларускай мовы. І гэта, ва ўмовах непрыязных адносін да яе з боку лукашэнкаўскай улады, дадае плюсаў адвакату.

Сайт Данілевіча месціцца ў інтэрнэце па адрасе **https://dplaw.by.** Выглядае ён даволі прывабна і салідна. На карычневым фоне ўверсе знаходзіцца назва і выйсці на розныя старонкі. На галоўнай жа можна пабачыць кароткае апісанне напрамку дзейнасці адваката. „Мы спецыялізуемся на вырашэнні спрэчак у дзяржаўных судах і арбітражы, асабліва з удзелам замежных асоб", — распавядаецца там. Калі сцісла, то адвакат працуе ў сферы вырашэння спрэчак у міжнародным бізнесе, спартовым і міжнародным сямейным праве. З'яўляецца экспертам па пытаннях міжнароднага грамадзянскага працэсу і міжнароднага арбітражу.

На старонцы „Хто мы" гаворыцца, што адвакат Аляксандр Данілевіч мае больш чым 20-гадовы досвед працы ў юрыдычнай прафесіі. У большасці выпадкаў адвакат вядзе справы, якія ахопліваюць некалькі юрысдыкцый. „Аляксандр Данілевіч з'яўляецца не толькі юрыстам-практыкам, але і юрыстам-вучоным, што часцяком дапамагае знайсці для яго кліентаў нестандартныя выхады са складаных сітуацый. Ён аўтар шматлікіх артыкулаў і манаграфій у галіне міжнароднага прыватнага права, міжнароднага грамадзянскага працэсу, міжнароднага камерцыйнага і спартыўнага арбітражу", — распавядаецца там.

Варта адзначыць, што на дадзенай старонцы распавядаецца аб прафесійных дасягненнях Данілевіча. На жаль, у гэтым тэксце і некаторых іншых сустракаюцца памылкі, па якіх бачна, што расповед быў перакладзены з рускай мовы і захаваў тоесёе ў словах і выразах. Напрыклад, „Матэрыялы на сайце падрыхтаваны адвакатам Аляксандрам Данілевічам з інфармацыйнай мэтай і не з'яўляюцца юрыдычным саветам або меркаваннем" альбо „Аляксандр Данілевіч можа быць таксама абраны стараной арбітражнага пагаднення...", дзе „савет" мусіць быць „парадай", а „старана" — „бокам". Але гэта, па шчырасці, не так ужо і важна, калі на сайце ёсць беларуская старонка выдатна аформленая і на якой змешчана даволі многа карыснай інфармацыі.

На галоўнай старонцы і ў якасці асобнай рубрыкі на сайце змяшчаюцца навіны. Паведамленні пачынаюцца ад чэрвеня 2015 года. Аднак чамусьці сёлетнім чэрвенем яны пакуль і скончыліся. Цяжка пагадзіцца, што ўжо паўгода нічога вартага апублікавання ў дзейнасці адваката Данілевіча не адбылося. Магчыма, невядомая нам сітуацыя не спрыяла таму, каб навіны абнаўляліся своечасова.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

Дата з Календара

# 40 гадоў з дня адкрыцця
# МУЗЕЯ НАРОДНАГА МАСТАЦТВА

12 снежня 1979 г. быў адкрыты філіял Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. Музей беларускага народнага мастацтва размешчаны ў былым касцёле Святога Мацвея Апостала ў мясцовасці Раўбічы, што ў Мінскім раёне ў 20 кіламетрах ад сталіцы. Касцёл быў пабудаваны яшчэ ў 1862 г. Пісьмовыя крыніцы расказваюць легенду будавання старажытнага храма 1650 г. Яго прычынай стала з'яўленне мясцовага абраза Маці Божай, якая засланіла і абараніла мясцовага шляхціца Лукаша Халяву ў час моцнай навальніцы. З часам колькасць жыхароў і мясцовых вернікаў расла, узнікла патрэба ў больш прасторным храме. У 1858 г. мінскі біскуп Адам Вайткевіч урачыста асвяціў падмурак будучай святыні, а да 1862 г. будаўніцтва мураванага касцёла было скончана. У 1866 г. храм перайшоў да праваслаўных і стаў Успенскай царквой. Яна дзейла да пачатку 1930-х гг., пакуль не была зачынена саветамі. Далей храм разбураўся і быў занядбаны.

Мясцовасць Раўбічы зараз больш вядомая ў свеце спорту — тут размешчаны трампліны для скачкоў на лыжах і біятлонная траса, дзе некалькі разоў праходзілі чэмпіянаты Еўропы. На тэрыторыі алімпійскага спартовага комплексу і размешчаны музей.

Ідэя стварэння музея ў старым паўразбураным Крыжагорскім касцёле належала намесніцы дырэктара Дзяржаўнага мастацкага музея БССР Ірыне Паньшынай і старшай навуковай супрацоўніцы аддзела дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Тацціяне Сцёпінай. Канцэпцыю рэстаўрацыі і размяшчэння экспазіцыі ў былым культавым будынку падтрымала дырэктарка Дзяржаўнага мастацкага музея Алена Аладава. Першапачаткова касцёл хацелі канчаткова разбурыць, бо страты будынка складалі звыш 80 працэнтаў. Паводле некаторых сведчанняў знішчэнню Крыжагорскага касцёла перашкодзіла асабістае ўмяшанне тагачаснага кіраўніка БССР Пятра Машэрава. Групу рэстаўратараў узначаліла архітэктар Л. Паўлава. Да асноўнага аб'ёму будынка з боку апсіды быў дабудаваны прамавугольны ў плане аб'ём (архітэктар Вальмен Аладаў), дзе размясціліся дадатковыя выставачныя плошчы і бытавыя памяшканні.

Адкрыццю музея папярэднічала некалькі гадоў падрыхтоўчай працы: рабіўся тэматыка-экспазіцыйны план і падбіраліся экспанаты, вяліся работы па праектаванні інтэр'ера і музейнага абсталявання. Музейная мэбля, зробленая з дрэва, таніраванага пад мораны дуб, удала ўпісалася ў інтэр'ер. Памяшканне музея мае выдатную акустыку, што дазваляе праводзіць у зале музычныя канцэрты. Дапаўняюць мастацкі вобраз экспазіцыі рознакаляровыя вітражы і каваныя жырандолі, зробленыя па матывах крашынскай жырандолі Паўлюка Багрыма. У асноўнай экспазіцыі прадстаўлены творы звычайных беларускіх сялян, якія валодалі выдатным мастацкім густам, адчуваннем характва, веданнем матэрыялу, з якім працавалі, і высокім роўнем майстэрства. Гэтыя ўласцівасці дазволілі ім вырабляць рэчы, што праз сотні гадоў былі прызнаны не проста этнаграфічнымі экспанатамі, а ўзорамі беларускага народнага мастацтва. Экспазіцыя музея знаёміць наведвальнікаў не толькі з найлепшымі творамі народных майстроў, але і дазваляе візуальна прасачыць пераемнасць традыцый у народным мастацтве і этапы яго развіцця.

Экспазіцыя музея прадстаўляе найбольш распаўсюджаныя віды беларускага прыкладнога мастацтва: ткацтва, кераміку, саломапляценне, разьбу па дрэве. Менавіта народнае мастацтва найбольш ярка дэманструе нацыянальную самабытнасць народа.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Невядомыя партрэты вядомых беларусаў Беласточчыны

Я не памятаю, ці друкаваліся гэтыя партрэты раней. Але мне яны ніколі не трапляліся. Зусім нядаўна я выявіў іх у архіве і музеі.

На адным здымку адлюстраваны Сяргей Прытыцкі, на другім — Васіль Сакалоўскі. Здымак Сяргея Прытыцкага цікавы тым, што ён сёння публікуецца ўпершыню. На ім палітык апрануты ў сарочку з беларускім арнаментам. Гэты здымак я адшукаў у Слонімскім раённым краязнаўчым музеі імя Язэпа Стаброўскага. Здымак захоўваецца ў фондзе, прысвечаным Заходняй Беларусі.

**Сяргей Прытыцкі** (1913-1971) нарадзіўся ў вёсцы Гаркавічы Сакольскага павета. У 1939-1941 гадах працаваў намеснікам старшыні Беластоцкага аблвыканкама. Быў старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета СССР. Памёр у Мінску і пахаваны на Усходніх могілках.

Рэдкі здымак сёння публікуецца і яшчэ аднаго беларуса з вёскі Козлікі Беластоцкага павета **Васіля Сакалоўскага** (1897-1968). Ён нарадзіўся ў сям'і беларускага селяніна. Спачатку скончыў двухкласную настаўніцкую школу і пэўны час працаваў настаўнікам у вясковай школе. Але падчас Першай сусветнай вайны сям'ю яго бацькоў выгналі ў бежанства ў Расію ў Пскоўскую вобласць. Сваё жыццё Васіль Сакалоўскі звязаў з арміяй. У гады Другой сусветнай вайны ён быў намеснікам камандуючага войскамі Першага Беларускага фронту. Меў званне маршала Савецкага Саюза і насіў зорку Героя Савецкага Саюза. Памёр у Маскве, дзе і пахаваны. Здымак Васіля Сакалоўскага выяўлены ў Дзяржаўным рэестры Расійскай Федэрацыі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Няма грошай...

...і сёлета не зробяць рамонту ваяводскай дарогі № 687 на ўхабістым 600-метровым адрэзку з Новага Ляўкова да чыгуначнага пераезду ў вёсцы Плянта Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Такі адказ ад кіраўніцтва Падляшскага праўлення ваяводскіх дарог (ППВД) у Беластоку атрымалі войт Нараўчанскай гміны і гмінны радны. Няма грошай на гэтак званую асфальтавую накладку.

Тым часам па гэтай дарозе вялікі рух легкавых ды вялікіх грузавых аўтамабіляў. Едуць яны да керамічнай фабрыкі ў Старым Ляўкове, у Семяноўку да мытні, вязуць цяжкую цэглу (вядома ж, гліна) на новыя пабудовы ў Варшаву, Беласток, Гайнаўку і далей у глыб краіны. Зараз старая струхлелая паверхня асфальтавай маставой там-сям раструшчана ды з ямінамі (добра, што пад асфальтам брук і таму дарога мацнейшая, больш трывалая). Усё ж з-за ўхабін небяспечна ехаць па ёй роварам, матавеласіпедам ці матацыклам.

Што то цяпер сталася, што на рамонт не абы-якой, бо ваяводскай, артэрыі грошай не прызапасілі? І многа гавораць па тэлебачанні і радыё, што на дарогі (нават павятовыя і гмінныя) грошай не пашкадуюць. Ці гэта толькі выбарчыя абяцанні і хлусня? **(яц)**

## Пражыць зіму

Зараз на вёсцы, між іншым, у Новым Ляўкове, не тое, што было калісьці. Мала хто з сялян займаецца жывёлагадоўляй. Толькі некаторыя яшчэ гадуюць малочных кароў і цялят. Коней толькі што пальцаў адной рукі. Гаспадыні не хочуць гадаваць курэй, гусей і качак. Яны пераважна на пенсіі, і, як самі кажуць, мы ўжо старыя і не ўсе здаровыя (пятнаццаць жанчын — удовы).

А, вядома, калі няма гадоўлі хатняй жывёлы ды курэй і іншай хатняй птушкі, як тады пражыць зімой курапатцы ці вераб'ю. Дзе падхапіць зярнятка ці іншы корм. Зараз на сялянскіх панадворках ціха і пуста. Чым тая шэрая птушачка можа пажывіцца? Ды і не мае яна куды схавацца ў снежную мяцеліцу і мароз. Няма прыязных дзікім птушкам драўляных поўных снапоў жыта, аўса або пшаніцы накрытых саломай стадолаў, хлявоў і свірнаў, стагоў саломы. Зараз у многіх стадолах няма сена і пагульвае вецер. Таму цяпер так мала вераб'ёў, сарок, варон, соек, курапатак і іншых птушак. Рэдка калі прылятаюць у вёску снегіры і сініцы. Усё ж прылятаюць яны ў вялікія маразы.

Сустрэнем іх, між іншым, у раскінутай па шырокай тэрыторыі ды пад лесам, вёсцы Плянта Нараўчанскай гміны. Там іх некаторыя гаспадыні падкормліваюць. Шмат гадоў робіць гэта, між іншым, маладая ўдава Вера Клімюк. Да яе ўжо прылятаюць снегіры. А сойкі ў яе на вялікім панадворку пастаянныя госці. За імі пачалі цікаваць каршуны і пустальгі (апошнія з іх з сям'і арліных). Драпежныя крылатыя хутка адлятаюць, калі спадарыня Вера зайграе на сігнальнай трубцы. Пражыць зіму да вясны дапамагае птушкам Кастусь Целушэцкі, жыхар Новага Ляўкова. Ён піша вершы, між іншым, пра сваю родную вёску, Семяноўскае возера, раку, птушак, лес і грыбы. Любіць праводзіць вольны час, як кажуць, на прыродзе. Яна дае яму натхненне. Як аказваецца не толькі яму. Недалёка ад Новага Ляўкова ў Новінах жыве другі Канстанцін — Ярашук, самародны паэт.

Цікава мне было бачыць, як падкормкай малых птушак займаецца жыццярадасны Канстанцін Ярашук (ён пастаянны чытач „Нівы", любіцель прыроды і шматгадовы пчаляр) з малой лясной вёсачкі Новіны Нараўчанскай гміны. Да спадара Канстанціна прылятаюць пад дом і ў яго ны яблыневы сад розныя птушкі, якія ў нас зімуюць і нават дзятлы, якія ў нас пастаянна жывуць. Яны — мітуслівыя ды шустрыя крылатыя госці — самотнаму чалавеку прыносяць немалую радасць. Спадар Канстанцін, захоплены харáством акружаючай прыроды ў кожную пару года, таксама піша вершы на беларускай мове і выхвальвае яе. **(яц)**

# 15.12 — 28.12

**(22.03. — 20.04.)** 16-22.12. высвятляй усялякія непаразуменні. 19-21.12., хаця не ўдасца пазбегнуць дробных памылак, усё хутка ўдасца паправіць, а ад рызыкоўных інтарэсаў адступіцца. Няма лепшага моманту на пачатак важных мерапрыемстваў, чым 19-25.12., твае адвага і рэфлекс памогуць убачыць і выкарыстаць непаўторны шанц; дзейнічай адзін. 25-27.12. не будзеш мець ахвоты на візіты і прыманне гасцей.

**(21.04. — 21.05.)** Да 20.12. наладжвай знаёмствы, шчаслівая адмена ў інтарэсах; можаш чакаць нават выйгрышу, палічыўшы на шчасце, а не на стратэгіі і сістэмы. Не дасіся ачаравацца абы-каму. 19-25.12. змена на лепшае ў любоўных рэляцыях, правядзі вольныя дні толькі ў пары. Не ўвалакуць цябе ў калаўротак падрыхтовак да святаў. 20-24.12. папсуецца табе густ, не купляй адзення і падарункаў. 22-26.12. поўна прыгод і сюрпрызаў. Не пакаўзніся.

**(22.05. — 22.06.)** Да 20.12. не паявіцца ў тваім жыцці хтосьці асаблівы. Пасля выходзь часцей з хаты. Магчымыя спрэчкі ў пары 20-24.12. — памятай, што памагае трымацца разам гэта не так вялікае каханне і шалёныя жарсці, а прыязнасць, блізкасць і талерантнасць. Можаш пашукаць іншай працы. Калі маеш сваю фірму, каля 25.12. трэба будзе штосьці паправіць у дакументах. Выйдзеш на плюс! Грошы цябе вельмі любяць, можаш атрымаць датацыю, вяртанне даўгу. Блізняты з II дэкады кепска перанясуць стрэс. Твая праца будзе ўзнагароджана.

**(22.06. — 23.07.)** Свет прыгажэйшы, многа мілых хваляванняў. 19-25.12. час спрыяе Ракам з III дэкады ў афармленні цяжкіх спраў. Пераможаш канкурэнцыю! З табою мусяць лічыцца! 15-17.12. фантастычная нагода з працай. 20-24.12. не спалі чагосьці. 25-29.12. на тваім пальцы можа паявіцца пярсцёнак. 25-27.12. атрымаеш падарунак пра які нават не марыў! Пра фінансы не турбуйся. Пахвалы шэфа, прэмія. Перспектывы на новы год шматабяцальныя.

**(24.07. — 23.08.)** 15-20.12. можа здарыцца штосьці, што адкрые табе дарогу ў кар'еры. 16-20.12. падзарабі крыху пунктаў у шэфа. 19-21.12. можа штосьці ўскладніцца, могуць цябе абкрасці, ці выявіць доступ да рахунку — правярай усе інфармацыі, не адкрывай падазроных лістоў. 20.12. хтосьці з тваіх сяброў гляне на цябе іначай. 20-24.12. нервова, спрэчкі, не захварэй, асабліва Леў з I дэкады: дбай аб сэрца. 22-26.12. поспехі, увядзеш у жыццё смелыя задумы.

**(24.08. — 23.09.)** У пачуццях час рашэнняў. Сярод сяброў і радні не звешвай нос. Іншых падтрымлівай не толькі добрым словам. На рабоце назірай за супрацоўнікамі, надстаўляй вуха, здабудзеш інфармацыі вартыя золата. 19-21.12. трымайся фактаў. 22-26.12. спадзявайся добрых змен. 25-29.12. — найлепшы момант на афармленне важных спраў.

**(24.09. — 23.10.)** Пасля 20.12. інтэнсіўны час ды вялікая кампанейская папулярнасць. Не правядзеш імпрэз у самоце. Запішыся на курсы танцаў. 25-29.12. пахвалы таксама шэфа. Цяжкія размовы пра фінансы ў мілай атмасферы, удасца пайсці на кампраміс. Сустрэчы, кірмашы, там можаш наладзіць шматабяцальныя кантакты. Не дай сябе спакусіць на вельмі дарагія пакупкі.

**(24.10. — 22.11.)** 19-21.12. могуць раскрыцца твае кепскія бакі. Але да 20.12. адтрубіш поспех. 20-24.12. цяжка будзе табе ўцяміць эмоцыі; магчымыя сямейныя спрэчкі. 22-26.12. перад табою адкрыюцца новыя дзверы кар'еры і не змарнуеш ніякай нагоды. Высокія прыбыткі, але і выдаткі. Не пажырай пустых калорый.

**(23.11. — 22.12.)** Удалы час. Будуць цябе любіць і захапляцца табою. Хаця 19-21.12. ляпнеш кампанейскае «faux pas». 25-29.12. працуй па плане. 25-29.12. імпульс да вучобы і павышэння кваліфікацый. Пасля 20.12. рамантычны час. Пагодзішся са сваякамі. 25-29.12. можаш разлічваць да дапамогу кагосьці, хто табе ў многім абавязаны. Справішся з тым, на што ўжо махнуў рукою.

**(23.12. — 20.01.)** Лёс спрыяе табе як ніколі, не праваронь жыццёвага шанцу! Да 20.12. дакажаш, што ты незаменны. Да 25.12. давядзеш да канца цяжкія справы. Задбай аб сваю красу і здароўе. 25-29.12. абавязкова зайграй у латарэю!

**(21.01. — 19.02.)** Да 20.12. нішто не расстроіць тваіх планаў. 19-21.12. людзі «возьмуць цябе на языкі». 19-25.12. не стартуй з новым, пазавяршай незаконччанае і неадкладнае. 25-27.12. не дай сябе панесці амбітнасці, не бярыся за выклікі вышэй тваіх сіл. 20-24.12. не старайся лішне паказацца. Да 28.12. скажы праўду партнёру. Спакойны час за сталом сярод радні.

**(20.02. — 21.03.)** 15.12. знаёмства з кімсьці цікавым. 19-21.12. будзеш абараняцца перад няслушнымі абвінавачваннямі. 19-25.12. не пашкадуеш адважных рашэнняў. 19-21.12. лепш абмінай крамы. 19-25.12. абавязкова наведай дантыста. Заснаванне фірмы, вялікія праекты, амбітныя рашэнні прынясуць поспех і немалыя грошы. Самастойная праца (да 25.12) пойдзе табе к дабру.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**1.** канчына, **2.** брытанская грашовая адзінка, **3.** вялікае сібірскае возера, **4.** няшчасце, **5.** плод непрышчэпленай дзікай грушы, **6.** пяюн з куратніка, **7.** Вілі, старшыня Савета міністраў ГДР у 1976-89 гадах, **8.** горад з Ватыканам, **9.** вялікая марская драпежная рыба, **10.** вострая заразная хвароба, чорная смерць, **11.** ямка з вадою, граззю, **12.** прыгожая пахучая кветка з шыпамі, **13.** офіс, **14.** магутнасць.

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | 2 | | 3 | | | |
| | 4 | | 5 | | | | | | | | | |
| | | | 6 | 7 | | 8 | | | 9 | | | |
| | | 10 | | | | | | | | | | 11 |
| | | | 12 | | | 13 | | | | 14 | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 46 нумара**

Аздоба, плошча, дамка, Японія, агарод, слова, Гайнаўка, цар, Пхукет, нэп, ніць, Еўклід, Орля, „Рамаяна".

Рашэнне: **Добрая пагалоска ляціць паволі, дрэнная — хутка**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Міхалу Байко** з Беластока.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# Міхал Андрасюк:

## — Я ад пачатку імкнуўся пісаць па-іншаму

**2 снежня свой юбілей, 60-годдзе, адзначыў беларускі пісьменнік, публіцыст, сябра беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» Міхал Андрасюк. Аўтар такіх зборнікаў прозы як «Фірма», «Мясцовая гравітацыя», «Белы конь», «Поўня». Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Веслава Казанэцкага і сёлетняй другой прэміі імя Ежы Гедройца. Пра тое, што атрымалася дасягнуць на літаратурнай ніве, а таксама пра планы, якія яшчэ чакаюць рэалізацыі, Міхал Андрасюк распавёў у гутарцы з Аннай Шайкоўскай.**

**Радыё Рацыя:** *— 60 гадоў — гэта ёсць час, калі ўжо можна падвесці пэўныя вынікі — і жыццёвыя, і літаратурныя. Ты дэбютаваў на старонках «Нівы» ў канцы 1970-х гадоў. Ці памятаеш гэты твор? Памятаеш, што паспрыяла, як ты вырашыў пісаць?*

**Міхал Андрасюк:** — Не памятаю дакладна, што першым было надрукавана ў «Ніве». Але, бадай, можна сказаць, што і раней, у палове 70-х, былі нейкія вершыкі. У «Парнасіку», была такая рубрыка ў «Ніве», дзе маладыя аўтары, вучні маглі дасылаць свае творы, яны там друкаваліся. І гэта быў вялікі гонар, і шчасце пабачыць сваё прозвішча, надрукаванае ў газеце. А ўжо на дарослай старонцы «Нівы», то сапраўды напрыканцы 70-х. Напэўна, гэта быў нейкі вершаваны твор. Нават не ведаю, ці можна гэта называць вершамі. З такіх вершаванак я пачынаў свой літаратурны шлях. Адкуль зацікаўленне літаратурай? Ад зацікаўлення кнігай. У дзяцінстве я вельмі любіў чытаць, і ў сваёй школьнай бібліятэцы, а гэта была пачатковая школа ў Старыне, я бадай што перачытаў усё, што было можна. І памятаю, ужо ў такой роспачы, адчаі, няма чаго ўзяць, няма чаго чытаць, усё прачытана. Я пазычыў у гэтай школьнай бібліятэцы кнігу пра вырошчванне буракоў. І чытаў яе. Памятаю, бацькі не вельмі прыязным вокам глядзелі на гэтую маю манію чытання. Бо трэба ж вучыць матэматыку, фізіку, усе астатнія школьныя прадметы, а не толькі чытаць кніжкі. Так што мне здаралася чытаць пад коўдрай пры ліхтарыку, каб ніхто не бачыў. І пэўна адтуль такія дзіцячыя мары, што было б файна калісьці пабачыць кніжку, сваё прозвішча на вокладцы.


Фота Алеся Аркуша

**РР:** *— І мары здзейсніліся. У 2000 годзе выйшаў першы твой зборнік апавяданняў «Фірма».*

**Міхал Андрасюк:** — Так. Дакладна. На пачатку 2000 года. Памятаю гэтую кніжку. У сэнсе, пах друкарскай фарбы. І вокладку. Яна склалася, па вялікім рахунку, з тэкстаў, якія друкаваліся раней у «Ніве». І былі тэксты, якія раней не друкаваліся. Сціплая кніжка. Але ў пэўным сэнсе, яна вельмі важная, бо гэта такі доказ, легітымнасць твайго існавання ў літаратуры.


Фота Алеся Аркуша

**РР:** *— Мне якраз з гэтай кнігі запомнілася апавяданне пра Колю, які лётаў над Гайнаўкай. Такое спалучэнне метафізікі з рэчаіснасцю жыцця на ўскрайку Пушчы. Не ведаю, мне асацыюецца з працамі Марка Шагала.*

**Міхал Андрасюк:** — Ну так, Шагал таксама лётаў над сваім Віцебскам. Мяне, з самага пачатку, цікавіла пісаць па-свойму, пісаць крыху іначай, як пішуць астатнія. Знайсці нейкую сваю кніжную паліцу ў гэтай вялікай-вялікай нашай беларускай літаратуры. Дарэчы, не толькі ў беларускай, проста ў літаратуры. Каб чытач, не глядзеўшы нават на вокладку, на імя, прозвішча, прачытаўшы некалькі радкоў, мог здагадацца, хто аўтар. Наколькі гэта ўдаецца, не ведаю. Крыху напэўна ўдаецца. Вось ужо самая першая кніжка «Фірма» была заўважана менавіта таму, што адрознівалася — і стылістыкай, і тэмай, і пабудовай фразы. Напэўна не была гэта высокага палёту літаратура. Але для чытача гэта было нешта іншае, новае. На Беласточчыне, калі казаць пра прозу, ніхто так не пісаў. Такія да мяне прыходзілі меркаванні ад чытачоў.

**РР:** *— Пасля «Фірмы» з'явіліся чарговыя кнігі — «Мясцовая гравітацыя», «Белы конь», «Вагон другога класа», у мінулым годзе — «Поўня». Але, чытаючы Твае кнігі, заўважаю адно — гэта ёсць расповед пра нас, пра людзей, якія жывуць на ўскрайку Белавежскай пушчы, на мяжы Польшчы і Беларусі. Знікае мяжа між светамі, і чытач уваходзіць у такую метафізіку.*

**Міхал Андрасюк:** — Ад крытыкаў і літаратуразнаўцаў я чуў і такое меркаванне, што я ўвесь час пішу адну кнігу. Можа крыху і так. З увагі хацяб на тое, што месца аб'ядноўвае ўсе мае ранейшыя кнігі. Хаця, напэўна бачу і саму эвалюцыю, калі казаць пра тэму, пра пабудову, пра настрой, пра пошукі чагосьці метафізічнага менавіта. Героем шмат якіх маіх кніжак з'яўляецца мой родны горад Гайнаўка і мая родная Гайнаўшчына. Кажуць пра Гайнаўку, што гэта звычайнае мястэчка, работніцка-сялянскае. Такая яго гісторыя. Прытым яшчэ кароткая гісторыя. А толькі нешта спрадвечнае, з такім доўгім-доўгім хвастом хавае за сабой нейкую таямніцу. Мне заўсёды хацелася знайсці ў гэтых звычайных вулачках, у гэтых звычайных дамах іх таямнічую душу, увогуле іх таямніцу. А калі яе не было, яе трэба было будаваць. Калі няма легенды, няма міфу, трэба проста гэты міф ствараць. Гэта таксама сэнс літаратуры.

**РР:** *— Апошнія гады вельмі важныя, на маю думку, для Цябе як для літаратара. Маю на ўвазе прызнанне польскім асяроддзем у Беластоку. Гэта ёсць прэмія Веслава Казанэцкага. Але таксама і намінацыя да прэміі імя Гедройца ў Менску.*

**Міхал Андрасюк:** — Для мяне было цікава, што «Поўня» атрымала ў Менску другое месца ў прэміі Гедройца. Але разумею таксама, што ўсялякія прэміі — гэта гульня, гэта забава проста. Ёсць журы, ёсць канкрэтныя людзі, якія судзяць гэтыя кнігі. Былі б іншыя людзі ў журы, можа мая «Поўня» зусім правалілася б на самым пачатку. А можа была б першая. Не ведаю, гэта проста ўсё суб'ектыўна. І не трэба вельмі браць у галаву такія літаратурныя конкурсы. Скажам, калі кнігу прызнаюць у адным, у другім, у трэцім, у чацвёртым конкурсе, розных зусім конкурсах, тады сапраўды можна ўжо думаць, што гэта штосьці добрае, лепшае за ўсё астатняе ў нейкім прамежку часу.

**РР:** — З нагоды юбілею дазволю пажадаць творчых думак для чарговых кніжак, не дзеля ўзнагарод, а дзеля таго, каб мы мелі магчымасць прачытаць і апынуцца ў гэтым адметным, непаўторным свеце прозы Міхала Андрасюка.

**Міхал Андрасюк:** — Дзякуй.

Гутарыла **Анна ШАЙКОЎСКАЯ**

ISSN 0546-1960